ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 21 (2475) 23 мая 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

"ЗОНА ЖУРБЫ"



А. КЛЯШЧУК. Удвух .1994 год.

( Працяг фотарэпартажу на 8-й стар.).

## АНОНС

24 мая адзначаецца Дзень славянскага пісьменства і культуры. Свята гэта звязана з імёнамі славянскіх першанастаўнікаў святых Кірыла і Мяфодзія, радзімай якіх з'яўляецца Балгарыя. З наступнага нумара ў "Голасе Радзімы" будзе друкавацца нарыс Пятра КУЦАРАВА "Славянскія першанастаўнікі і Беларусь". Імя П.Куцарава вядома нашым чытачам. Колькі гадоў таму ён працаваў у Балгарскім пасольстве ў Мінску і супрацоўнічаў з "Голасам Радзімы". Цяпер ён жыве і працуе ў Маскве, але, як сам гаворыць, у Беларусі назаўжды пакінуў часцінку свайго сэрца, таму і прыслаў нам свой новы матэрыял.

ІНАВАЦЫІ — НЕ СТОЛЬКІ ТЭХНАЛОГІІ, КОЛЬКІ СПОСАБ МЫСЛЕННЯ І ЖЫЦЦЯ

# ЦЯЖКІЯ КРОКІ НАСУСТРАЧ ПРАГРЭСУ

**Прыгожае слова -- "інавацыя". Ды вось, як аказалася, далёка не ў кожным беларускім ці рускім слоўніку адшукаеш яго. Можа, нездарма? Можа, і гэта праяўленне нашага ладу жыцця? Прынамсі, пасля гутаркі з дырэктарам Навукова-інавацыйнай асацыяцыі "Інфамтэх" Яўгеніем КРАСНІКАВЫМ падобная думка напрошваецца.**

***-- Яўгеній Федасеевіч, наколькі вядома, выпрацоўка прадуманай, эфектыўнай інавацыйнай палітыкі -- адна з першачарговых задач дзяржавы, якая не жадае плесціся ў хвасце агульнасусветнага працэсу развіцця...***

-- На жаль, нас пакуль гэта не тычыцца. Хаця некаторы пошук вядзецца.

***-- Гэта значыць, поўнага застою няма!***

-- А ён сёння ні ў чым не назіраецца. Дынаміка ў наяўнасці, прычым моцная, але са знакам мінус. Мы коцімся ўніз па ўсіх напрамках. Што ж тычыцца выпрацоўкі рэальнай інавацыйнай палітыкі, то пра што можна весці гутарку, калі няясная эканамічная мадэль развіцця краіны ў цэлым?

Становішча пагаршаецца яшчэ і таму, што сёння ўжо не падлягае рэстаўрацыі раней створанае. За што б мы ні ўзяліся, нішто не стасуецца да новых умоў: ні асобныя прадпрыемствы, ні галіны -- ніводзін бок нашага жыцця.

***-- Вы лічыце, старое ў нашай краіне вартае таго, каб разбурыць "до основанья"?***

-- Усё дашчэнту раўняць з зямлёй не варта. Але момант, калі нешта яшчэ падлягала мадэрнізацыі і трансфармацыі, упушчаны. Больш дакладна, у нас не хапіла сіл і розуму для такой работы. Мы аказаліся не проста навічкамі -- дзецьмі, нават не школьнікамі. Успомніце: дрэннае жыццё ўспрымалася, як нармальнае, не існавалі паняцці заможнасці, багацця. Усе былі роўныя, хоць прырода распараджаецца зусім па-іншаму.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*ПАМІЖ КАТАЛІЦТВАМ І ПРАВАСЛАЎЕМ*

# ВЯРТАННЕ АДШЧАПЕНЦАЎ

**Сёлета адзначаецца 400-годдзе Брэсцкай царкоўнай уніі, што паклала пачатак існаванню своеасаблівага вызнання -- уніяцтва на Беларусі. Гэтая падзея сама па сабе цікавая тым, што уніяцтва доўгія стагоддзі вызнавала большасць беларускіх вернікаў. Узнікае пытанне: як здарылася, што гэтая канфесія апынулася непануючай верай!**

**У гісторыі эвалюцыі уніяцтва надта важнае месца займаюць падзелы Рэчы Паспалітай і паслядоўнае ўключэнне беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі.**

Напярэдадні свайго падзелу ў дзяржаўных актах Рэчы Паспалітай праваслаўных з пагардай называлі схізматыкамі, ерэтыкамі, а каталіцкую веру -- "рэлігіяй абодвух абрадаў" (уласна каталіцтва і уніяцтва). Гэта значыць, уніяты лічыліся неад'емнай часткай і саюзнікам каталіцтва з часу уніі Кароны з Вялікім Княствам Літоўскім у адзіную дзяржаву.

**(Працяг на 4-й стар.).**

**ДА ЧЫТАЧОЎ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!**

Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні Беларусі, і вы, шаноўныя чытачы, маеце магчымасць падпісацца на "Голас Радзімы" на другое паўгоддзе 1996 года.

Спадзяемся, што вы зробіце гэта неадкладна, каб не спазніцца.

Наш індэкс -- 63854.

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## ЗАЯВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ "АБ ПАДЗЕЯХ 26 КРАСАВІКА 1996 ГОДА Ў г. МІНСКУ"

**У трагічны для Беларусі дзень 10-годдзя чарнобыльскай катастрофы на вуліцах сталіцы рэспублікі адбыліся сутыкненні прыхільнікаў шэрагу нацыяналістычных сіл з органамі аховы грамадскага парадку.**

**Дзень, заклікаы стаць днём яднання і кансалідацыі народа, стаў днём канфрантацыі і жорсткасці.**

**У рэспубліцы ўзмацняецца палярызацыя грамадска-палітычных сіл, што вядзе да расколу грамадства і страты дзяржаўнасці.**

**Палітычныя гульні вакол падзей 26 красавіка працягваюцца.**

**У гэтай сувязі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заяўляе, што насілле не павінна быць сродкам палітычнай барацьбы, якімі б высакароднымі мэтамі яно ні апраўдвалася і з чыйго б боку ні прымянялася.**

**Вярхоўны Савет асуджае ўдзел у падзеях 26 красавіка экстрэмістаў з УНА-УНСО.**

**Мы выступаем за мірныя формы вырашэння канфліктаў. У Рэспубліцы Беларусь, як дэмакратычнай дзяржаве, грамадска-палітычныя праблемы павінны вырашацца не ў вулічным процістаянні, а ў цывілізаваным публічным дыялогу ўлады, партый і рухаў у сродках масавай інфармацыі і Вярхоўным Савеце.**

*З ТРЫБУНЫ ААН*

## ПРАПАНОВЫ БЕЛАРУСІ

**Аб намаганнях Беларусі ў стварэнні і ўмацаванні нацыянальнага патэнцыялу для аднаўлення эканамічнага росту і пераходу да ўстойлівага развіцця ў новых сацыяльна-эканамічных умовах расказаў віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Гаркун на чацвёртай сесіі Камісіі -ААН па ўстойліваму развіццю.**

**Кіраўнік беларускай дэлегацыі прыцягнуў увагу да ініцыятыў Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, выказаных на міжнароднай канферэнцыі ў Вене "Дзесяць гадоў пасля Чарнобыля [illegible]нка вынікаў аварыі", а таксама да прапановы за[illegible]ваць Фонд аховы планеты і заклiку да вучоных і палітыкаў разгледзець праблемы забеспячэння ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага і экалагічнага развіцця Рэспублікі Беларусь.**

**Віцэ-прэм'ер праінфармаваў удзельнікаў пасяджэння аб гатоўнасці ўрада нашай рэ[illegible]лікі выступіць у якасці прымаючага боку і ск[illegible]ць у першай палове 1997 года ў Мінску міжнародную рэгіянальную канферэнцыю краін з пераходнай эканомікай, прысвечаную праблемам забеспячэння ўстойлівага развіцця.**

*ПРАРЫЎ У ВЯЛІКІ СВЕТ*

## ЛЕПШЫ БАЛЕТ ГОДА -- БЕЛАРУСКІ



**Народнаму артысту Рэспублікі Беларусь, мастацкаму кіраўніку балета Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета акадэміку Валянціну Елізар'еву ўручаны самы прэстыжны прыз і дыплом Міжнароднай асацыяцыі дзеячаў харэаграфіі "Бенуа дэ ля данс". Журы Міжнароднай асацыяцыі дзеячаў харэаграфіі аднадушна прызнала балет-спектакль "Страсці ("Рагнеда") у рэжысуры Елізар'ева лепшай пастаноўкай 1996 года.**

**Такую ўзнагароду атрымлівала ўсяго чатыры чалавекі: два французскія харэографы, адзін нямецкі і адзін галандскі.**

**Пяты -- наш суайчыннік.**

**З гэтай нагоды В.Елізар'еў атрымаў віншавальную тэлеграму ад Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі і была наладжана сустрэча нашага знакамітага земляка з Сямёнам Шарэцкім, Старшынёй Вярхоўнага Савета.**

**"Балет-спектакль "Страсці" ("Рагнеда"), на музыку А.Мдзівані ў пастаноўцы Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, -- гаворыцца ў прывітальным адрасе Прэзідыума Вярхоўнага Савета Валянціну Мікалаевічу, -- пад Вашым мастацкім кіраўніцтвам стаў адной з яркіх падзей у балеце года, з'явіўся светачам у міжнародным маштабе, чыста нацыянальным па духу, самым важкім у беларускай культуры".**

**Сямён Георгіевіч падкрэсліў асобую значнасць поспеху работы Елізар'ева.**

**-- Вы несяце ў еўрапейскую супольнасць добры імідж нашай дзяржавы, -- сказаў Шарэцкі. -- Гаворыце ўсяму свету аб магутным таленце нашага народа. Вялікі вам дзякуй! Такія поспехі вызначаюць твар нацыі.**

**НА ЗДЫМКУ: С. ШАРЭЦКІ віншуе слыннага балетмайстра В. ЕЛІЗАР^ЕВА.**

*ВАКОЛ ПАДЗЕЙ 26 КРАСАВІКА*

## "НАДЗЕЯ" ЗВЯРТАЕЦЦА ДА С. ШАРЭЦКАГА

**Беларуская партыя жанчын "Надзея" выступіла са зваротам да Старшыні Вярхоънага Савета рэспублікі Сямёна Шарэцкага.**

**Гэты зварот тычыцца сітуацыі, што склалася пасля падзей 26 красавіка, калі былі арыштаваны многія ўдзельнікі акцыі "Чарнобыльскі шлях-96". "Усё, што здарылася ў дзень дзесяцігоддзя чарнобыльскай катастрофы, міжволі прымушае задумацца над далейшым лёсам Беларусі, -- гаворыцца ў звароце. -- Мы добра разумеем, што ўзнікшае палітычнае процістаянне можа прывесці да непапраўных вынікаў. Ад імя беларускіх жанчын мы заклікаем да Вашага розуму і выступаем супраць насілля як формы палітычнай барацьбы..."**

*"ДАПАМОГА ГОМЕЛЮ"*



**Дзітэр Кнауц -- служачы нямецкай фірмы "Сіменс" -- узначальвае грамадскую ар[illegible]зацыю горада Поінг "Дапамога Гомелю". На [illegible]хунку нямецкіх сяброў дзесяткі паспяховых аперацый хворым беларускім дзецям. Цяпер Дзітэр Кнауц рыхтуе медыцынскія дакументы для паездкі ў Германію трохгадовай Дашы Пархоменка. Пасля некалькіх аперацый у Мюнхене, кошт якіх каля 500 тысяч дойчмарак, Дзітэр Кнауц абяцае дзяўчынцы паўнацэннае жыццё.**

**НА ЗДЫМКУ: Дзітэр КНАУЦ з Дашай ПАРХОМЕНКА і яе мамай у Гомелі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

МАГІЛЁЎСКІ аблвыканком прыняў рашэнне хадайнічаць перад Прэзідэнтам Беларусі аб наданні Магілёву ганаровага звання "Горад-герой". Але ў Беларусі такое званне не зацверджана.

ВЫЙШАЎ з друку першы том 18-томнай Беларускай Энцыклапедыі. Першае выданне энцыклапедыі, ажыццёўленае 20 гадоў назад, мела 12 тамоў і змясціла 35 тысяч тэрмінаў. Новая універсальная энцыклапедыя будзе ўтрымліваць каля 80 тысяч тэрмінаў.

ЗА СТУДЗЕНЬ--КРАСАВІК 1996 года на вытворчасці ў Беларусі пры выкананні службовых абавязкаў загінулі 84 чалавекі. Летась за гэтыя ж чатыры месяцы -- 81.

"БАЛЬШАВІЗМ Беларускага народнага фронту" -- з такім артыкулам выступіў у газеце "Звязда" старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін. Былы аднадумец БНФ сцвярджае, што манаполія БНФ на дэмакратыю і дэмакратычны рух скончылася. "Выраслі і ўзмацнелі іншыя палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі, здольныя павесці за сабой народ".

У НОЧ з 13 на 14 мая, у гадавіну вядомага рэферэндуму, на стометровай трубе Віцебскай ЦЭЦ нехта вывесіў бел-чырвона-белы сцяг. Забаронены сцяг быў зняты ўдзень трыма добраахвотнікамі.

МІНІСТЭРСТВА юстыцыі Беларусі вынесла афіцыйнае папярэджанне Беларускаму народнаму фронту "Адраджэнне". Прычына: парушэнне закона "Аб палітычных партыях". Да таго ж, выкарыстанне БНФ "незарэгістраванай сімволікі".

14 МАЯ гэтага года былі арыштаваны, а затым высланы за межы Беларусі члены дэлегацыі польскага прафсаюза "Салідарнасць", якія знаходзіліся ў Мінску па запрашэнні Свабоднага прафсаюза Беларусі. У Заяве нашага МЗС для друку польскім прафсаюзным дзеячам інкрымінуецца арганізацыя "не ўзгодненага з мясцовымі ўладамі мітынгу" і "заклікі польскіх грамадзян да арганізацыі процідзеяння законнай уладзе Рэспублікі Беларусь".

**Вядомыя вучоныя, члены рэдкалегіі Энцыклапедыі гісторыі Беларусі М.БІЧ, А.ГРЫЦКЕВІЧ, М.ЕРМАЛОВІЧ, М.КАСЦЮК, Г.КІСЯЛёў, У.КОНАН, А.МАЛЬДЗІС, В.СКАЛАБАН, Г.ШТЫХАў даслалі ў рэдакцыю "Голасу Радзімы" Заяву, з якой яны звярнуліся да кіраўніцтва Дзяржкамдруку Беларусі і Беларускай Энцыклапедыі.**

**Лічым неабходным азнаёміць з гэтым дакументам нашых чытачоў.**

## ЗАЯВА

Нам, членам рэдкалегіі Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, стала вядома, што 17 красавіка б.г. адбылося пасяджэнне рэдкалегіі гэтага выдання, на якім вырашаўся лёс цалкам падрыхтаванага да друку 3-га тома ЭГБ, адкліканага з друкарні пасля другой карэктуры. Мы ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы гэтага тома з моманту складання слоўніка і да апошніх стадый рэцэнзавання і рэдагавання. Нашы праўкі ёсць ва ўсіх макетах і ў першай карэктуры тома. Тым не менш на пасяджэнне рэдкалегіі 17 красавіка нас ні пісьмова, ні вусна не запрашалі.

Мы расцэньваем факт выключэння нас са складу рэдкалегіі як беспадстаўны. У ёй зроблены кардынальныя змены. Калі не лічыць нябожчыкаў Б.І.Саванку і М.А.Ткачова, то з 13 яе членаў, пазначаных у другім томе, засталіся толькі чатыры. Лёс 3-га тома ЭГБ зараз вырашаюць іншыя людзі, якія да апошніх дзён не з'яўляліся членамі рэдкалегіі і не мелі ніякага дачынення да вызначэння зместу кнігі. Мы пратэстуем супраць такой практыкі, якая груба парушае элементарныя прававыя нормы, прынятыя ў цывілізаваным дэмакратычным грамадстве, ігнаруе падпісаную Беларуссю Міжнародную канвенцыю аб ахове аўтарскіх правоў.

Лічым, што новапрызначанае кіраўніцтва БелЭН абавязана афіцыйна інфармаваць нас аб наступным: 1. Калі, кім і па якіх прычынах мы выключаны з рэдкалегіі Энцыклапедыі гісторыі Беларусі? 2. На якой падставе нас спрабуюць пазбавіць рэдактарскіх правоў на працу, рэальна выкананую намі? 3. Ці маюць права толькі што прызначаныя члены рэдкалегіі падпісваць да друку 3-ці том ЭГБ, над якім яны не працавалі?

Метадалагічныя пазіцыі большасці з новых членаў рэдкалегіі ЭГБ нам вядомы па публікацыях у перыядычным друку апошніх часоў. Асаблівай актыўнасцю ў гэтых адносінах вызначыліся П.Ц.Петрыкаў (першы намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Беларуская Энцыклапедыя) і А.А.Філімонаў. Яны безапеляцыйна адкідаюць нацыянальна-дзяржаўны падыход да асвятлення гісторыі, які праявіўся ў шэрагу сучасных выданняў беларускіх гісторыкаў, у тым ліку ў першым і другім тамах Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. Менавіта такі падыход агульнапрыняты ў нацыянальнай гістарыяграфіі ўсіх суверэнных краін свету, бо толькі ён абгрунтоўвае і ўмацоўвае суверэнітэт, больш таго -- забяспечвае самазахаванне народа. П.Ц.Петрыкаў, А.А.Філімонаў і іх аднадумцы, якія ўжо даўно не займаюцца практычна навукова-даследчай дзейнасцю, усяляк дамагаюцца вярнуць беларускую гістарыяграфію на антынацыянальныя па іх сутнасці пазіцыі -- да высноваў і ацэнак расійскіх дваранска-манархічных гісторыкаў, ідэй "заднорусcізма", спалучаных з класавым камуністычна-партыйным падыходам.

Наколькі нам вядома, выключэнне ў гэтых адносінах зроблена толькі для 3-га тома Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, які, здаецца, будзе выдадзены з мінімальнымі, "касметычнымі" праўкамі, узгодненымі з аўтарамі артыкулаў. Тлумачыцца гэта тым, што за кожны дзень затрымкі выдання паліграфкамбінат спаганяе з БелЭН вялікія штрафныя сумы. Ёсць падставы меркаваць, што да рукапісаў 4--6 тамоў ЭГБ, а таксама гістарычных артыкулаў 18-томнай Беларускай універсальнай энцыклапедыі (БУЭ) новае кіраўніцтва БелЭН прад'явіць свае канцэптуальныя патрабаванні ў поўнай меры і ў самай жорсткай форме.

Рэалізацыя іх адкіне нашу гістарыяграфію на дзесяцігоддзі назад і, між іншым, прывядзе да поўнага канцэптуальнага разыходжання з нашымі калегамі ў Расіі і на Украіне, якія ў апошнія гады актыўна пераасэнсоўваюць і распрацоўваюць гісторыю сваіх краін менавіта з нацыянальна-дзяржаўных пазіцый. Рэалізацыя гістарыяграфічных установак П.Ц.Петрыкава -- А.А.Філімонава нанясе цяжкі ўдар па працэсу адраджэння гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці беларускага народа, пашкодзіць умацаванню суверэнітэту Рэспублікі Беларусь і яе аўтарытэту ў міжнародным супольніцтве.

# ЦЯЖКІЯ КРОКІ НАСУСТРАЧ ПРАГРЭСУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Спроба захаваць падобную "спадчыну" ў выніку непазбежна абарочваецца супраць нас жа. Напрыклад, падтрымка ў што б там ні было нашых "згуртаваных працоўных калектываў", нават яўных банкрутаў. Нягледзячы на вонкавую высакароднасць акцыі, гэта не што іншае, як утойванне беспрацоўя. І потым, што значыць плаціць за нявыканаую працу? Толькі адно -- разбэшчваць нармальнага работніка з нармальнай псіхікай.

***-- Яўгеній Федасеевіч, вернемся да тэмы прамой залежнасці інавацыйнай палітыкі ад агульнай эканамічнай мадэлі.***

-- Мне ўяўляецца адназначным: у розных эканамічных пабудовах розны і характар інавацый. Давайце звернемся да пытання аб уласнасці, з чым наша грамадства ніяк не вызначыцца. Я не веру ў тую прыватызацыю, якую спрабуюць цяпер у нас ажыццявіць. Нельга ўсіх паставіць у шарэнгу і раздаць кожнаму па "кавалачку" маёмасці.

І ўсё ж уласнасць не можа больш заставацца ў яе цяперашнім стане, яна павінна нейкім чынам рэфармавацца. Пытанне ж аб уласнасці з'яўляецца асноўным у вызначэнні інавацыйнай палітыкі. Ад яе канчатковага вырашэння залежыць, хто будзе валодаць і інавацыямі, якія рабіць на кухні немагчыма: неабходна абсталяванне, навуковая база, з чым цяпер узнікаюць вялікія праблемы. Акрамя таго, апошнія 5--6 гадоў беларускія даследчыкі, распрацоўшчыкі знаходзяцца ў інфармацыйным вакууме: не атрымліваюць навуковую перыёдыку, дрэнна ведаюць, што адбываецца вакол.

Даўно ўжо ставіцца пытанне аб неабходнасці прыняцця закона аб інтэлектуальнай уласнасці. Але ж калі ўдумацца, пакуль няма нават метадалагічнай асновы для яго стварэння. Можна, вядома, базіравацца на сусветным вопыце. Але ён -- своеасаблівая пальма, прывезеная з экватарыяльнай Афрыкі ў нашу зімнюю сцюжу. Абапірацца неабходна на свой эканамічны і маральна-палітычны клімат, менталітэт нацыі.

***-- Але ці ёсць у беларускім грамадстве і дзяржаве попыт на інавацыі!***

-- Пытанне злабадзённае і, як усё цяперашняе жыццё, складанае. Грамадству, у якім мы жылі яшчэ не так даўно, яго эканоміцы інавацыі не патрабаваліся. Аб якім рэзкім разбурэнні старога і стварэнні новага можна было казаць ва ўмовах дырэктыўнай прадпісанасці на пяць гадоў наперад? Інавацыі проста развалілі б план, што з'яўлялася немагчымым у прынцыпе. Інавацыя ж, не выкарыстаная адразу пры яе нараджэнні, заўтра ўжо нікому не патрэбна. У цэлым неспрыяльныя ўмовы захаваліся і па сённяшні дзень.

***-- Нібыта ў былым СССР заўсёды падтрымлівалася ўсё перадавое...***

-- Але толькі тое, што не закранала асновы.

Хачу засяродзіць увагу на адным моманце. Вельмі важна ўсведамляць: інавацыі -- не толькі і не столькі тэхналогіі, абсталяванне, вытворчасць, інавацыі -- спосаб жыцця. У чым сусветная перавага, напрыклад, Злучаных Штатаў? Гэта інавацыйная краіна з адпаведнай псіхалогіяй, дзе кожны знаходзіцца і жыве ў вельмі жорсткіх умовах пастаяннага пошуку новага. Мы так і засталіся неўспрыімлівымі да любых новаўвядзенняў, хаця цяпер вельмі спрыяльны момант для змянення сітуацыі. Краіне неабходна навукаёмкая, энерга- і рэсурсазберагаючая вытворчасць, высокія тэхналогіі.

***-- Што ж атрымліваецца на справе!***

-- На жаль, як і заўсёды, адзінай крыніцай паляпшэння свайго становішча нашы вытворцы бачаць дапамогу з боку ўрада і прэзідэнта. Але нічога добрага падобны падыход не прынясе. Так, пад націскам кулака пралетарыяту даюцца грошы на зарплату, абаротныя сродкі, іншыя неадкладныя патрэбы. Але ў такім рэжыме болей працаваць нельга. Хопіць існаваць у сістэме бясконцых падачак.

Здавалася б, ільготы адменены, але паглядзіце -- дзяржава па-ранейшаму плаціць тым, хто не працуе. Я разумею, калі гэта робіцца ў адносінах да хворых, інвалідаў, старых, сірот -- людзей, якія па аб'ектыўных прычынах не могуць сябе ўтрымліваць. Але астатнія павінны знаходзіцца ў рэжыме "стымуляцыі", зацікаўленасці -- тады самі будуць рвацца наперад, змагацца за новую прадукцыю, тэхналогіі, за месца на сусветным рынку. Вось тады пачнуць адкрывацца і новыя рабочыя месцы... Пакуль жа таго, хто вырваўся з агульнага раду, хуценька "ставяць на месца", вяртаюць на зыходныя пазіцыі. Калі не з'явіцца прамая зацікаўленасць прадпрыемстваў, эканоміка так і застанецца ў сумным стане. І не дапамогуць ніякія карныя меры супраць кіраўнікоў.

Прыкладаў традыцыйнага негатыўнага стаўлення да наватарства хапала і хапае ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці краіны. Успомнім нядаўняе мінулае. Што дрэннага ў кааператыўным руху, які налічвае ў сваёй гісторыі не адно стагоддзе? Мы ж на працягу двух гадоў гэты працэс нарадзілі, сказілі і адкінулі.

Кааператыў -- аб'яднанне людзей для вырашэння сваіх уласных праблем, натуральна, у рамках існуючых законаў. Але чамусьці нам уяўлялася, што гэта і ёсць панацэя ад наспеўшых эканамічных праблем: кааператывы, маўляў, усіх накормяць, напояць і прывядуць да светлай будучыні. Не, атрымалася не так, як некаму хацелася, а па законах і правілах, назапашаных чалавецтвам. Многія сталі карыстацца тымі магчымасцямі, якія ім ласкава прадаставілі заканадаўцы, пачаўшы надзяляць кааператывы рознымі льготамі, фондамі, падтрымкамі... А нічога гэтага не варта было рабіць. Аб'ядналіся -- усе праблемы вашы.

Падобная гісторыя цяпер адбываецца з малымі прадпрыемствамі. І ўжо зусім не сыходзяць у людзей з языкоў камерсанты.

Так, могуць быць у нечым вінаваты канкрэтна Іваноў, Пятроў, Сідараў. Але навошта ганьбіць камерцыю ўвогуле? Дзякуючы ёй, існуе прамысловасць.

Нягледзячы на ўсе перамены, кансерватызм псіхалогіі, мыслення, у цэлым усёй палітыкі неаспрэчны. І менавіта тут скрываецца галоўны, нябачны тормаз, а ўжо потым адбіваецца недахоп рэсурсаў, што таксама справядліва.

***-- Значыць, уся справа ў тым, каб хутчэй скінуць груз мінулага!***

-- Увогуле, так. Але не думайце, што гэта лёгка зрабіць. І нават не ад нежадання расставацца з днём учарашнім, а ў сілу аб'ектыўных прычын.

Звярніце ўвагу яшчэ на адну якасць нашай эканомікі і вытворчасці. Яны ніколі не былі арыентаваны на простага чалавека. Галоўнае, чаго заўсёды дабіваліся, -- дасягнуць чагосьці небывалага ў сусветных маштабах: стварэнні касмічных тэхналогій і г.д. І ніколі не цікавіла: а што хоча канкрэтны грамадзянін у сваім паўсядзённым жыцці? Як задаволіць яго запатрабаванні? Хаця менавіта гэтымі пытаннямі задаваліся вытворцы на Захадзе. Больш таго, яны фарміравалі патрэбы чалавека, "навязваючы" яму новыя прадметы быту, паслугі, новае жыццё...

***-- Яўгеній Федасеевіч, як я разумею, тэма фарміравання і развіцця інавацыйнай палітыкі вялікая і мае мноства аспектаў. Праблем у сувязі з гэтым таксама -- шмат. І ўсё ж, што канкрэтна сёння робіцца ў даным напрамку!***

-- Пачынаючы з 1992 года, створана ўжо некалькі канцэпцый і праграм. І цяпер наша асацыяцыя ўдзельнічае ў чарговай распрацоўцы, якая на гэты раз закранае сферу малога інавацыйнага прадпрымальніцтва. Вядзе даследаванні Акадэмія навук, з якой мы таксама супрацоўнічаем. Па ініцыятыве "Інпрамтэха" прайшлі дзве міжрэспубліканскія выставы інавацыйнай прадукцыі.

Здавалася б, не так ужо дрэнна. Але ва ўсіх сённяшніх напрацовак ёсць агульны істотны недахоп -- яны не арыентаваныя на перспектыву. Мы знаходзімся ў размытай прававой прасторы. Для сапраўднага, доўгатэрміновага поспеху справы неабходна прававая база, вырашэнне адпаведных фінансава-эканамічных, арганізацыйных, інфармацыйных пытанняў. У тым, што тычыцца навукі, дапускаць агрэхаў нельга. Калі нейкія эканамічныя прабелы ліквідуюцца за пяць гадоў, то ў навуцы гэты тэрмін павялічваецца ў тры разы, негатыўныя вынікі недастаткова прадуманых рашэнняў тут заўсёды даволі цяжкія. Можа гэта нас і стрымлівае? Не ведаю...

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

*РЫХТУЕЦЦА НОВАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА*

# ШЛЮБ ЗАМАЦОЎВАЕЦЦА ДАГАВОРАМ

**Вецер перамен закрануў і такую кансерватыўную сферу грамадскіх адносін, як шлюб і сям'я. Неабходны новыя падыходы да вырашэння многіх праблем, звязаных з падзелам маёмасці, аліментамі, парадкам усынаўлення... Словам, патрэбен новы кадыфікаваны заканадаўчы акт, які рэгуляваў бы шлюбныя і сямейныя адносіны.**

У падрыхтаваным праекце кодэкса больш падрабязна, чым у існуючым законе, рэгламентаваны правы і абавязкі мужа і жонкі, парадак і ўмовы заключэння шлюбу, спыненне шлюбу і прызнання яго несапраўдным. Прадугледжаны новыя падыходы для забеспячэння роўнасці правоў членаў сям'і, узаемных абавязкаў бацькоў і дзяцей.

Сярод іншых новаўвядзенняў заслугоўвае ўвагі стварэнне такога інстытута сферы сямейнага права. як шлюбны дагавор. Мяркуецца, што такім дагаворам муж і жонка будуць замацоўваць свае пагадненні аб размеркаванні сямейна-бытавых абавязкаў, выхаванні дзяцей, асабістай і сумеснай уласнасці, парадку падзелу сумеснай маёмасці ў выпадку разводу. Шлюбны дагавор можа заключацца пры рэгістрацыі шлюбу ці ў любы іншы час, аднак ён павінен быць зарэгістраваны ў органах ЗАГСа. Гэтае новаўвядзенне разлічана хутчэй за ўсё на моладзь, паколькі ўжо сёння маладыя людзі пры заключэнні шлюбу стараюцца агаварыць умовы будучага сямейнага жыцця. На думку спецыялістаў, гэтая мера дазволіць пазбегнуць непатрэбных маёмасных спрэчак у выпадку разводу і абмяжуе бурную дзейнасць featureрознага роду шлюбных авантурыстаў.

У кодэксе будзе зменены парадак зніжэння шлюбнага ўзросту.

Прапаноўваецца таксама новы парадак скасавання шлюбу. На сённяшні дзень у выпадку, калі не ўзнікае спрэчкі па раздзелу сумесна нажытай маёмасці, калі ў сям'і няма дзяцей ці дзеці ўжо дарослыя, развод магчымы праз ЗАГС. У праекце новага закону гэта магчымасць адсутнічае, і развод у ЗАГСе ўвогуле рэгістравацца не будзе. Працэдуру разводу мяркуецца ажыццяўляць толькі ў судовым парадку, прычым існуючай сёння спрошчанай працэдуры разводу не будзе. Пасля падачы заявы ў суд тым, хто разводзіцца, будзе прадастаўлены трохмесячны тэрмін на прымірэнне ці вырашэнне маёмасных пытанняў. Аднак і праз тры месяцы, калі суд не знойдзе прычыны распаду шлюбу сапраўды сур'ёзнымі, ён можа адмовіць у іску. Здзіўленне такі складаны парадак разводу выклікае толькі на першы погляд. У нашай краіне існуюць занадта аблегчаныя працэдуры заключэння і скасавання шлюбу, што зусім не садзейнічае яго ўмацаванню. Спрошчаны парадак скасавання будзе дзейнічаць у асобых выпадках, напрыклад, калі адзін бок -- муж ці жонка -- будзе прызнаны недзеяздольным ці асуджаны. У такім выпадку суд павінен вынесці рашэнне на працягу месяца.

У праекце ўводзіцца зусім новае пагадненне аб дзецях, якое павінна заключацца бацькамі пры скасаванні шлюбу і зацвярджацца судом. Гэта дазволіць бацькам па ўзаемнай згодзе вызначыць месца жыхарства дзяцей, памер аліментаў на іх, парадак зносін з дзецьмі бацькі ці маці, якія асобна пражываюць, і іншыя ўмовы жыцця і выхавання дзяцей.

Абсалютна новым момантам у кодэксе стане рэгламентацыя ўзаемаадносін мужа і жонкі і донараў пры штучным апладненні, што для нашага ханжаскага грамадства знаходзіцца за мяжой разумення. Дзеці, што нарадзіліся ў гэтым выпадку, прыраўноўваюцца да родных, а бацька, які даў згоду на апладненне маці, не мае права затым аспрэчваць сваё бацькоўства ў адносінах да гэтага дзіцяці.

У праекце замацаваны такія паняцці, як сям'я, члены сям'і, блізкія сваякі, дадзены вызначэнні мнагадзетнай сям'і, няпоўнай сям'і, бацькоўскай улады, устаноўлена адказнасць за выхаванне дзяцей. Крыху зменены падыход да вызначэння маёмасных праваадносін бацькоў і дзяцей, да ўстанаўлення аліментных абавязкаў бацькоў і дзяцей, а таксама іншых членаў сям'і.

Для павышэння гарантый забеспячэння правоў дзіцяці ўстанаўліваецца судовы парадак усынаўлення. Ён будзе зменены прынцыпова: калі цяпер усынаўленне адбываецца праз райвыканкомы, то, згодна з новым кодэксам, гэтыя функцыі возьме на сябе суд.

Акрамя таго, у праекце з'явілася некалькі артыкулаў, што рэгламентуюць парадак усынаўлення беларускіх дзяцей замежнымі грамадзянамі. У асноўным жа мяркуецца рэгуляваць гэтыя пытанні Палажэннем, якое будзе зацверджана Кабінетам Міністраў.

Зыходзячы з неабходнасці рэалізацыі ў нацыянальным заканадаўстве норм і прынцыпаў міжнароднага права, замацаваных у Канвенцыі аб правах дзіцяці, да якой Беларусь далучылася ў 1990 годзе, у праекце кодэкса аб шлюбе і сям'і заканадаўча замацаваны правы і абавязкі дзяцей. У прыватнасці, устаноўлена такое права непаўналетняга, як магчымасць самастойна звяртацца ў судовыя органы для абароны сваіх інтарэсаў пачынаючы з 15-гадовага ўзросту.

У праекце новага кодэкса закладзены перадумовы для рэгулявання не толькі сённяшніх праблем, але і тых, якія могуць узнікнуць у будучыні, што выгадна адрознівае гэты дакумент ад многіх іншых, якія прымаюцца як канстатацыя ўжо існуючага Палажэння. Зразумела, некаторыя артыкулы новага кодэкса ўскладняюць існуючыя цяпер працэдуры заключэння і скасавання шлюбу, але адначасова з гэтым яны будуць садзейнічаць захаванню сям'і і дапамогуць пазбегнуць многіх канфліктных сітуацый. Акрамя таго, нельга не адзначыць, што новы кодэкс у адпаведнасці з сусветным вопытам накіраваны ў першую чаргу на ахову правоў і інтарэсаў маці.

Па прапанове Міністэрства юстыцыі прадугледжана абмеркаванне праекта кодэкса і правядзенне яго міжнароднай прававой экспертызы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*З ВІЛЕНШЧЫНЫ*

# ГАРАЧАЯ ПАРА Ў 68-Й БЕЛАРУСКАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЕ

Канец навучальнага года ўжо не за гарамі. Вясна, вызваліўшы нас ад доўгага зімовага палону, прынесла радасць і прыемныя клопаты. З уздымам вучні нашай школы ўзяліся за добраўпарадкаванне сваёй тэрыторыі.

Як ветлівыя гаспадары сустрэлі крылатых сяброў -- самі змайстравалі і развесілі шпакоўні. Усё жывое аздабляе прыроду і робіць свет, у якім мы жывем, прыгожым, яркім, цікавым. А гэта дапамагае ў пасляховай працы і вучобе.

На працягу навучальнага года ў школе праводзяцца традыцыйныя прадметныя тыдні. Мы пераканаліся, і час паказаў, што яны развіваюць творчы патэнцыял, садзейнічаюць паглыбленню ведаў па прадметах.

Вядома, гэта таксама дадатковая нагрузка і для настаўнікаў, але адначасова і магчымасць на практыцы прымяніць нетрадыцыйныя метады навучання. Энтузіязм, ініцыятыва, запал вучняў, зрэшты, сумесны пошук з лішкам пакрываюць затрачаны час. Напрыклад, тыдзень беларускай мовы, які адбыўся зусім нядаўна, выявіў выдатных артыстаў, якія ўдзельнічалі ў пастаноўках. Выступалі ў якасці сцэнарыстаў, рэжысёраў, агучвалі фільм. Адбыліся змястоўныя сустрэчы з цікавымі людзьмі.

Рыхтаваліся да тыдня біялогіі і геаграфіі, прызначанага сумнай даце -- 10-годдзю чарнобыльскай трагедыі.

У нашай школе займаюцца дзеці з сямей, якія не абышла гэта бяда. Праграма тыдня насычаная і змястоўная. Актыўная творчая і практычная дзейнасць вучняў будзе чаргавацца з цікавымі экскурсіямі, сустрэчамі, праглядамі стужак на экалагічную тэматыку.

Завершыцца тыдзень добраўпарадкаваннем лясного масіву, размешчанага побач са школай, і пасадкай бярозавай алеі на тэрыторыі школы ў памяць аб ахвярах чарнобыльскай аварыі.

Вядома, чужой бяды не бывае, гэта ведае стары і малы. Бяда аб'ядноўвае людзей. Але так хочацца, каб аб'ядноўвалі толькі светлыя, высакародныя мэты. І тады жыццё нашых дзяцей будзе бязвоблачным і радасным. А калі раптам і навісне над імі хмарка, то няхай яна будзе толькі навальнічнай і праільецца на зямлю веснавым дажджом, які змые ўсе нягоды на іх шляху.

А яшчэ хацелася пазнаёміць чытачоў з творчасцю вучаніцы 5-га класа нашай школы Карыны Мірашнічэнка.

**З удзячнасцю**
**...тлана РЭДУТА,**
**н... ...нік дырэктара**
**68-й сярэдняй школы**
**г. Вільні.**

# САМЫ СТАР... ФОТАЗДЫМАК У СЯМЕЙНЫМ АЛЬБОМЕ

Аднойчы, седзячы на канапе, я разглядала сямейны альбом. Там я знайшла стары пажаўцелы фотаздымак, на якім былі мае бабуля і дзядуля яшчэ маладымі. Гэты фотаздымак нагадаў мне бабуліну хату, дзе я была яшчэ маленькай. Зараз мая старэнькая бабуля ў тых мясцінах не жыве, а дзядуля памёр. Так непрыкметна плынь успамінаў вярнуле мяне ў той цудоўны куток, у маленькую вёску над ракой. Там раскошныя лясы і прасторныя палі, засеяныя жытам з блакітнымі вочкамі васількоў паміж збажыны, цудоўныя сады.

Але цяпер у гэтай вёсцы ніхто з людзей не жыве: там вялікая радыяцыя.

Мая мама мінулай вясной наведвала магілку дзядулі, заходзіла ў вёску і мне расказала, як там цяпер: сонейка свеціць, сады цвітуць, птушкі пяюць на розныя галасы, а ў хатах забіты дошкамі вокны, трава ў рост чалавека, не спяваюць пеўні, не гудзяць машыны. Там зараз вельмі ціха.

Стары фотаздымак абудзіў жаданне зноў вярнуцца туды. Я вельмі хачу ўбачыць бабулін дом і паглядзець, як там цяпер. Яшчэ мне хочацца самой схадзіць на могілкі, дзе пахаваны дзядуля і нашы родныя. Мне вельмі шкада, што бабуля там больш не жыве. Я б ёй дапамагла палоць, даглядаць жывёлу, бегала б сонечным ранкам па роснай траве...

Не магу ўявіць сябе без гэтых цудоўных краявідаў, без матчынай мовы, без тых меладычных песень -- без усяго, што называецца спадчынай.

Болем у сэрцы адзываецца любая бяда блізкіх мне людзей, а тым больш -- чарнобыльская. Гляджу на здымак, і не верыцца, што там цяпер атручаная вада, забруджаныя зямля і паветра, не могуць жыць людзі.

Баліць душа, калі пачынаем думаць пра ўсё гэта. У роспачы хочацца крыкнуць: "Божа! За што ты пакараў гэту зямлю, заўсёды такую гасцінную? За што пакараў народ, які ніколі і мухі не пакрыўдзіў?"

А ў памяці ўсплываюць радкі з дзесьці прачытанага верша:

**-- Ад чаго так самотны,**
**бусел,**
**у гняздзе над**
**знямелай вёскай!**
**-- Я сумую па Беларусі,**
**дачарнобыльскай,**
**чыстаросай.**
**-- Ад чаго пачарнеў ты,**
**бусел,**
**у палескім бары**
**атрутным!**
**-- Ад жалобы**
**па Беларусі,**
**зганьбаванай**
**і шматпакутнай.**

**Карына МІРАШНІЧЭНКА,**
**вучаніца 5-га класа**
**68-й сярэдняй школы**
**г. Вільні.**

# ВЯРТАННЕ АДШЧАПЕНЦАЎ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Наадварот, у царскім урадзе Расіі беларускія землі ВКЛ разглядалі як населеныя пераважна праваслаўнымі, якіх гвалтам або падманам адарвалі з часу уніі ад адзінавернай Расіі. Афіцыйны Пецярбург лічыў уніятаў за "секту, отщепенцев нашей веры, отнюдь к католицкой прямо не присоединившихся" і якіх, натуральна, збіраўся вярнуць да веры продкаў.



Здаецца, непрымірымыя бакі паразумеліся ў 1766--1767 гадах падчас дамаганняў Пецярбурга ўраўнаваць католікаў з іншаверцамі або дысідэнтамі ў Рэчы Паспалітай. Узамен за прызнанне выключнага ... пануючага становішча каталіцтва ... канстытуцыі рэспублікі, якую Пецярбург абавязваўся апякаць, сейм 1768 года прадаставіў праваслаўным свабоду культу і скасаваў дыскрымінацыйныя пастановы адносна іх. Праваслаўны епіскап Р. Кані... пры тым патрабаваў, каб у трактаце аб... ...юх краін быў запісаны ясны пункт аб свабодзе уніятаў па добрай ахвоце вярнуцца ва ўлонне набоскасці. Ён дамагаўся звароту 5 манастыроў, 192 цэркваў, гвалтам адабраных ва унію. Сейм пагадзіўся разабрацца з святынямі, забранымі ў праваслаўных і дысідэнтаў, толькі пасля 1 студзеня 1717 года праз сумесную камісію. Той жа сейм абвясціў пераход з рыма-каталіцкай у іншую рэлігію крымінальным злачынствам і абяцаў не дапускаць пакарання ўсіх, хто дагэтуль прытрымліваўся каталіцкага абраду. Гэты пункт якраз тычыўся уніятаў, якіх Пецярбург рашыў да часу замоўчыць у міждзяржаўнай дамове.

Чарговы сейм 1773--1775 гадоў у трактаце з Расіяй замацаваў цэласць "рэлігіі святой каталіцкай абодвух абрадаў", а Кацярына ІІ абяцала за сябе і сваіх наступнікаў не ўжываць улады для парушэння адзінства каталіцтва і на шкоду "тому состоянию, в коем римско-католическая вера по вошедшим провинциям (у склад імперыі. -- **А.Я.**) доныне находится". Гэты ж сейм у трактаце 15 сакавіка 1775 года забараніў ужываць войскі і з іх дапамогай "подавать кому бы то ни было руку помощи" пры судовым разглядзе справы вяртання дысідэнцкіх святынь.

Аднак сярод абавязацельстваў Пецярбурга не было пастановы аб забароне ўжываць войскі для звароту уніяцкіх цэркваў і саміх вернікаў, бо, паўтару, тыя трактаты наогул замоўчвалі апошніх. Сярод кардынальных або вечна-непахісных правоў рэспублікі не было і пагрозы пакарання за змену іншых вызнанняў, акрамя каталіцтва. Існавала толькі згода на пераход з аднаго веравызнання ў іншае праз шлюбы. Пецярбург як апякун канстытуцыйнага ладу Рэчы Паспалітай гарантаваў непарушнасць існуючага канфесійнага становішча, бо процілеглы бок таксама не прызнаваў самастойнага існавання уніяцкай царквы. І Пецярбург, і Варшава глядзелі на уніятаў -- у большасці сялян-прыгонных -- як на статак, быдла, якое рухаецца ў той ці іншы бок па волі пана, па слову айца-душпастыра або па загаду начальніка. За цвердасцю Варшавы стаяла сівая даўніна, якая ахінула цемрай стагоддзяў паходжанне уніяцтва. Пецярбургу належала марудна разблытаць і судовым парадкам даказаць праваслаўнае мінулае дапучаных у 1772 годзе часткі беларускіх жыхароў.

Якраз гэтая задача не вабіла вярхі імперыі. Сам Р.Каніскі ў канцы 1772 года пісаў, што "естли б бог не судил коротшим способом церкви в руках униатов состоящия к благочестию возвратить, то для дохождивания оных судом было б лутче, чтоб архив полоцкого архиепископа взят был в секвестр и с оной крепости и документы нам принадлежащия были выняты". Аднак улады Рэчы Паспалітай марудзілі з судовым разборам і прадастаўленнем дакументаў, так што сам кароль у 1783 годзе абавязаў земскія і гродскія суды дзяржавы не цягнуць справы аб дысідэнцкіх цэрквах. Ён патрабаваў завесці на іх асобныя спісы і адвесці тыдзень пад спецыяльныя сесіі для іх разгляду.

У 1772 -- 1774 гадах на забраным абшары ўсходняй Беларусі царызм секвестраваў і канфіскаваў у казну амаль палову ападаткаванага сялянства. Гэта распаліла вайну за душы паствы. З Рыма паляцелі абвінавачванні ў прымусовым вяртанні ў праваслаўе па Пскоўскай і Магілёўскай губернях 429 цэркваў з... 688 прыхаджанамі. Называлі нават лічбу 1 200 святынь! Аднак такой колькасці на самай справе не было. Гэтыя яўна сфальсіфікаваныя лічбы маглі сведчыць і на карысць добраахвотнай цягі уніятаў да змены вызнання. Сінадальныя вярхі і свецкія ўлады царскай Расіі дзейнічалі якраз у такім рэчышчы.

Карыстаючы з масавых канфіскацый, Р.Каніскі адразу стаў завальваць улады данясеннямі аб тым, што адшчапенцы цэлымі "толпами и со слезами просят воссоединить их в благочестие по добровольному и издревле крывшемуся в сердце желанию". Для доказу ён увесну 1773 года арганізаваў збор петыцый уніяцкіх святароў і прасіў Сінод выдаць указ аб прыёме першых ахвотнікаў, за якімі абавязкова рушаць астатнія цэлымі прыходамі. Заўзятага Каніскага падтрымліваў беларускі намеснік З.Чарнышоў. Апошні жадаў адсэпараваць уніяцкую іерархію ад каталіцкай пад нагляд Сената, каб хутка разабрацца з адшчапенцамі з дапамогай дзяржавы. Аднак ва ўмовах урачыстых абяцанняў аб верацярпімасці вырашылі не спяшацца з адзяржаўленнем. 14 снежня 1772 года католікаў усяе імперыі аддалі пад уладу каталіцкаму біскупу, але пад вярхоўнай юрысдыкцыяй Юстыц-калегіі Сената. Епіскапа Я.Смаржэўскага паставілі на чале полацкай уніяцкай дыяцэзіі, якую адвялі ў склад Пскоўскай епархіі. Каталіцкім і уніяцкім ксяндзам катэгарычна забаранілі ні патаемна, ні яўна схіляць іншавернікаў з пагрозай праследу і пакарання.

Знешнепалітычнае ведамства Расіі адмоўчвалася на дамаганні Каніскага, гледзячы на рэакцыю яшчэ не далучаных жыхароў і каб не сварыцца са сваімі прыхільнікамі ва ўцалелай Рэчы Паспалітай. Маланкавыя захады Каніскага сталі пярэчыць палітыцы ўрада, які стаў вяртаць арыштаваныя ўладанні ранейшым панам-католікам за вернападданіцкую прысягу. Агітацыя цэлых прыходаў непажадана справакавала памешчыцкіх сялян на непаслушэнства панам, за пераход у казну, бо яны былі якраз звязаны адзінымі прыходамі з дзяржаўнымі сялянамі. Першы наступ на секту закончыўся практычна беспаспяхова.

Спрыяльны час настаў са смерцю ў 1779 годзе уніяцкага мітрапаліта Л.Шаптыцкага, на месца якога ў 1780 годзе Пецярбург і Варшава дамовіліся перамясціць з полацкай кафедры Смаржэўскага. Апошні спрабаваў захаваць сваю юрысдыкцыю і апеляваў да кангрэса базіліянаў (уніяцкі манаскі ордэн), куды прасіў выпусціць яго ў ліпені 1780 года разам з полацкімі ігумнамі К.Жабам, І.Міляноўскім, віцебскім ігумнам А.Марцінкевічам, прафесарам метафізікі Ф.Грабніцкім і Д.Рымашэўскім. Не маючы годных кандыдатур на сваю вакансію, ён падзяліў кіраванне дыяцэзіяй па правінцыях: у Рагачоўскай даручыў уладу архімандрыту Ануфрыева манастыра І.Лісоўскаму, у Мсціслаўскай -- свайму намесніку, архімандрыту Барысаглебскага полацкага манастыра К.Чудоўскаму разам з прафесарам багаслоўя І.Міляноўскім. Але ўсіх іх, як непасвячоных, не выпусцілі за мяжу.

Падчас майскага падарожжа Кацярыны ІІ на Беларусь канцлер імперыі А.Безбародка параіў нанесці "последний и решительный бой" секце. Уладкаванне асірацелай уніяцкай епархіі было абвешчана царскай справай, бо з 1710 года мітрапалічы пасад лічыўся каралеўскім кціtарствам (прэрагатывай манарха). 2 ліпеня 1782 года на чале дыяцэзіі паставілі кансісторыю (калегію) з чатырох лаяльных асоб. У Пецярбургу вырашылі цягнуць з намінацыяй уладыкі, каб тым часам навярнуць у набоскасць як мага больш уніятаў праз апытанне жадаючых у вакантных прыходах. З.Чарнышоў сказаў Р.Каніскаму: "Вот, теперь вам свободно принимать целыми селениями и с церквами желающих присоединиться к православному нашему исповеданию". План належала ажыццяўляць скрытна.

Каніскі распараджаўся досыць кемліва. Да прыкладу, уніяцкі святар абвяшчаўся праваслаўным, а прыход -- вакантным. Асірацелых прыхаджан далучалі да суседняга і потым ставілі праваслаўнага папа. Аднак гэтыя хітрыкі рабіліся без згоды паноў -- валадароў сялян. Дазволам на апытанне жадаючых сам жа ўрад уклаў зброю ў рукі сваіх працаўнікаў, бо яны маглі дзейнічаць гэтаксама на карысць сваёй веры.

**Яўген АНІШЧАНКА.**

**На здымку: граф А. БЕЗБАРОДКА.**

**(Працяг будзе).**

# САР'Я

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ МАЁНТКА І РОДУ ЛАПАЦІНСКІХ)

Таму ў жніўні 1871 года быў складзены каштарыс "на выпраўленне і канчатковае ўладкаванне муравана́й царквы ў в.Сар'і". Цікава адзначыць, што першапачаткова епархіяльнымі архітэктарамі быў выкананы праект званіцы, якая павінна была быць узведзена перад галоўным фасадам храма. Праект прайшоў усе належныя зацвярджэнні і ўжо быў накіраваны з Пецярбурга для выканання ў Віцебскую губернскую царкоўна-будаўнічую канцылярыю. Але тут, дзякаваць Богу, вырашылі ашчадзіць царкоўныя грошы і не ўзводзіць званіцу, якая, па шчыраму прызнанню саміх членаў канцылярыі, прывяла б да "знішчэння цудоўнага фасада будынка". Амаль год у Сар'янскай царкве вяліся рамонтныя працы, і 27 лістапада 1872 года адбылося яшчэ адно яе асвячэнне.

Нягледзячы на тое, што на запыт Сената віцебскі губернатар у свой час даслаў заключэнне аб тым, што "просьба Лапацінскага не падлягае задавальненню", упарты ўладар Сар'і вырашыў змагацца з уладамі да канца. 26 студзеня 1873 года ў Віцебскую злучаную палату крымінальнага і грамадзянскага суда ён накіраваў іскавае прашэнне з патрабаваннем кампенсацыі за адчужаныя ў яго на карысць Полацкай духоўнай кансісторыі мураваны храм і пляц зямлі пад ім. Акцэнтуючы ўвагу чыноўнікаў на неабходнасці абараняць "свяшчэннае права ўласнасці", ён паведамляў аб тым, што ўзвядзенне касцёла каштавала яму 62 520 рублёў, а зямельны пляц, які цяпер належаў храму, займаў 800 квадратных сажняў. Ці было задаволена прашэнне Лапацінскага хоць часткова, застаецца невядомым, бо ў архіўнай справе адсутнічае заключэнне з выракам суда. Варта адзначыць, аднак, што надзея на станоўчае вырашэнне справы была мізэрная. Яшчэ ў 1869 годзе ў сваім рапарце Сенату галоўны начальнік краю адзначаў, што ў дачыненні да справы Лапацінскага будынак сямейнай грабніцы ў той час, калі быў ператвораны ў касцёл, "раз і назаўсёды страціў характар прыватнай уласнасці". Да таго ж, ці маглі быць служкі закону асабліва прыхільныя да памешчыка, у маёнтку якога, як пазней быў вымушаны прызнаць сам віцебскі губернатар, касцёл "быў зачынены па палітычных меркаваннях"?

Страціўшы ў Сар'і каталіцкую бажніцу, Ігнат Лапацінскі не пераставаў актыўна займацца гаспадарчымі праблемамі маёнтка. Аднак фінансавыя справы яго ішлі не вельмі добра. К 1872 году прыватныя і казённыя даўгі Ігната дасягнулі 418 938 рублёў 89 3/4 капейкі. Усе пазыкі былі забяспечаны ім на маёнтках Лявонпаль ды Сар'я ў Віцебскай і Кайраны ды Бязданы ў Віленскай губернях. Аднак пазыкадаўцы настойліва патрабавалі тэрміновай выплаты грошай і пачалі звяртацца з хадайніцтвамі аб іх спагнанні з даўжніка ў павятовыя паліцэйскія ўпраўленні і Віцебскае губернскае праўленне. У сувязі з гэтым маёнтак Сар'я быў апісаны, і на 11 верасня 1872 года на яго былі прызначаны таргі. Праўда, таргі не адбыліся па прычыне "няяўкі жадаючых".

Каб неяк паправіць сваё фінансавае становішча, Ігнат Лапацінскі вымушаны быў прадаць маёнтак Кайраны, які налічваў на той час 2 916 1/2 дзесяціны зямлі, графу Юзафу Тышкевічу. Пэўны час самому Ігнату разам з сынам Станіславам давялося жыць у Варшаве. Аднак напрыканцы жыцця ён зноў вярнуўся ў Сар'ю. Пражытыя гады не пазбавілі яго грамадскай актыўнасці. Ігнат стаў заснавальнікам сялянскага банка ў суседняй Асвеі і ажно да канца жыцця займаў пасаду міравога суддзі Дрысенскага павета.

Памёр Ігнат Лапацінскі 11 траўня 1882 года ў Сар'і і быў пахаваны побач са сваёй маці і жонкай на фамільных могілках "насупраць цудоўнай гатычнай капліцы".

Пасля продажу Кайран Сар'я зноў стала галоўнай сядзібай роду Лапацінскіх. У 1883 годзе ў валоданне Сар'яй уступілі дзеці Ігната: сын Станіслаў, якому належалі 13/14 частак маёнтка, і дачка Соф'я, уладарка 1/14 часткі. Станіслаў Ян Лапацінскі (1851--пасля 1930) быў юрыстам, ён скончыў гімназію ў Варшаве, потым юрыдычны факультэт Варшаўскага універсітэта, пасля чаго набываў прафесійную практыку ў Пецярбургу і, нарэшце, асеў у Кіеве, дзе працаваў адвакатам. Соф'я Лапацінская недзе ў 1870-х гадах выйшла замуж за Фелікса Ржавускага і прыняла аўстрыйскае падданства.

**Працяг.**
**Пачатак у NN 16 — 20.**

### "НА БЕЛАЙ РУСІ Ў САР'І..."

Як жа выглядаў сядзібны комплекс маёнтка Сар'я, пра які мы ўжо так даўно вядзем размову? "У Сар'і быў дом нізкі, урослы ў зямлю, але досыць вялікі, поўны закуткоў і старога, палінялага, і тым не менш каштоўнага начыння," -- такой убачыла сар'янскую сядзібу на пачатку XX стагоддзя Яніна Жалтоўская.

Да часоў 1-й сусветнай вайны "на Белай Русі ў Сар'і, уласнасці сям'і Лапацінскіх", як паэтычна назвала гэтую сядзібу Габрыэля Пузына, існаваў старасвецкі жылы комплекс, пачатак фарміравання якога прыпадае яшчэ на сярэднявечча.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца некалькі інвентароў маёнтка Сар'я, якія паходзяць з мінулага стагоддзя. Першы з іх, датаваны 1847 годам, быў састаўлены чыноўнікамі Віцебскага губернскага камітэта па складанню інвентароў памешчыцкіх маёнткаў і ўтрымліваў толькі агульны пералік пабудоў сядзібы. Другі -- за 1871 год -- прадстаўляе вельмі падрабязнае апісанне кожнага збудавання, бо рабіўся ён падчас падрыхтоўкі да продажу маёнтка з таргоў за даўгі. Менавіта толькі дзякуючы апошняму інвентару мы можам сёння скласці выразнае ўяўленне аб тым, як жа выглядаў панскі двор і ўвесь сядзібны комплекс у Сар'і.

Найперш варта адзначыць, што ўсяго ў склад комплексу ўваходзіла 31 пабудова. Не засяроджваючыся на апісанні рознага кшталту гас... рчых будынкаў (свірнаў, лядоўня... эяў, павецяў, птушнікаў, стайняў і г.д.), заўважым толькі, што апроч вялікага панскага дома на 28 пакояў тут існавалі 6 асобных мураваных жылых флігеляў, у кожным з якіх было ад 4 да ... акояў -- у Сар'і любілі і ўмелі прыма... сцей. На жаль, да нашага часу не захавалася ні архітэктурных апісанняў, ні выяваў панскага дома, на падставе якіх можна было б вызначыць яго стылёвую прыналежнасць і з большай або меншай ступенню дакладнасці час узвядзення. Можна толькі сказаць, што стары панскі дом у Сар'і, відаць, не вылучаўся адметным вонкавым абліччам, бо мастак Напалеон Орда падчас наведвання маёнтка абмежаваўся замалёўкай толькі неагатычнага Сар'янскага касцёла ў імя Св.Марыі, пакінуўшы зусім без увагі сядзібны дом.

Інвентар маёнтка Сар'я за 1871 год падае вельмі падрабязнае, аднак, як бы мы зараз сказалі, толькі тэхнічнае апісанне будынка: "Дом жылы панскі аднапавярховы драўляны, яшчэ трывалы, абшыты дошкамі, на нізкім мураваным падмурку, крыты гонтай, з парадным пад'ездам (...). З абодвух бакоў гэтага дома ў адной з ім сувязі -- мураваныя, звонку атынкаваныя аднапавярховыя, дастаткова трывалыя жылыя пабудовы (...). З правай рукі -- з парадным ганкам (...). Над прыбудовай гэтай уверсе жылы мезанін".

Сядзібны дом у Сар'і быў дастаткова працяглы, яго агульная даўжыня складала 41 сажань (больш за 87 метраў). Мяркуючы па ўсім, бакавыя мураваныя прыбудовы ўзводзіліся не адначасова з цэнтральным драўляным аб'ёмам будынка. Відаць, яны былі зроблены пазней, калі ў Лапацінскіх з'явілася патрэба ў пашырэнні агульнай плошчы і зручнасці дома.

Згаданы інвентар утрымлівае падрабязнае апісанне планіроўкі будынка, яго асобных пакояў, вызначае функцыянальнае прызначэнне ўсіх памяшканняў, чым уяўляе найвялікшую каштоўнасць для яго будучых рэстаўратараў (дом не захаваўся да нашага часу). Варта адзначыць, што панскі дом быў утульны і зручны для жыцця. Апроч жылых і гаспадарчых (галоўным чынам належных да кухні) памяшканняў тут былі ўладкаваны дзіцячая ванна і некалькі прыбіральняў у розных яго канцах. У адным з пакояў дома да адкрыцця касцёла Св.Марыі, а магчыма, і пэўны час пасля яго ліквідацыі, была ўладкавана невялікая дамавая капліца. У доме захоўваліся таксама фамільныя зборы: вялікая бібліятэка, архіў і мастацкая калекцыя.

Побач з панскім домам быў разбіты вялікі фруктовы сад на 100 дрэў, які займаў каля дзвюх дзесяцін зямлі. У садзе былі пабудаваны дзве аранжарэі, у адной з якіх вырошчваліся фрукты (вінаград, фінікі, кавуны і г.д.), а ў другой -- толькі кветкі.

У Сар'і існавалі таксама мураваны двухпавярховы піваварны завод і мураваны вадзяны млын на рацэ Сар'янцы, а на адлегласці чвэрці вярсты ад маёнтка -- цагельны завод Лапацінскіх.

Вялікі фруктовы сад, рэчышча Сар'янкі, што звілістай лініяй апаясвала сядзібу, а таксама маляўнічы ландшафт наваколля з'явіліся выдатнай натуральнай асновай для стварэння прысядзібнага парку. Ён быў разбіты ў рэгулярна-пейзажным стылі на абодвух берагах Сар'янкі і на левабярэжжы паступова пераходзіў у лесапарк. Праз Сар'янку быў перакінуты прыгожы арачны мост для пешаходаў. Парадная



частка парку была спланавана ў ...эгулярным стылі і ўключала ў сябе дзве тэрасы. Як і ў кожным парку эпохі рамантызму, шмат увагі надавалася тут архітэктурна-дэкаратыўнаму аздабленню. На ніжняй тэрасе парку быў зроблены невялікі па памерах штучны насыпны пагорак, на якім размяшчалася альтанка, вымураваная з цэглы. Пагорак з'яўляўся ўдалай відавой кропкай, з якой адкрывалася перспектыва на сядзібу, касцёл і маляўнічае рэчышча хуткаплыннай Сар'янкі. Пейзажная частка парку была сфарміравана на падставе натуральнага ліставога лесу, які абкружаў маёнтак. Штучныя пасадкі інтрадуцыраваных парод дрэў і экзотаў спрыялі аздабленню пейзажу. Тут было пракладзена некалькі дарожак і сцяжынак, якія ўтваралі маляўнічы прагулачны маршрут.

Рэшткі парку захаваліся да нашага часу. Рашэннем N 317 Віцебскага аблвыканкома ў 1987 годзе яны былі ўзяты пад ахову дзяржавы. Вучонымі Цэнтральнага батанічнага сада Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь было праведзена даследаванне парку-помніка. Паводле сабраных даных, тут зараз налічваецца каля 30 парод розных дрэў: ліпа, клён, ясень, вяз, серабрыстая таполя і інш. Ёсць у Сар'янскім парку і экзоты: сасна веймутава і лістоўніца польская. На тэрыторыі парку выяўлены таксама віды расліннага і жывёльнага свету, якія занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь: першацвет вясновы, пралеска высакародная, жывакост высокі; з птушак -- зімародак і аляпка. Сёння парк-помнік у Сар'і патрабуе рэканструкцыі і аднаўлення.

Сар'янская сядзіба была цэнтрам аднайменнага вялікага маёнтка, які па тагачасным адміністрацыйным дзяленні належаў да Дрысенскага павета Віцебскай губерні. У 1847 годзе ў склад маёнтка ўваходзілі 7 фальваркаў і 67 вёсак з 19 726 дзесяцінамі і 726 сажнямі зямлі ды 2 581 прыгонным селянінам. Пасля адмены прыгоннага права частка зямель маёнтка была выдзелена сялянам. Паводле інвентара 1871 года, ён складаўся ўжо з 11 985 дзесяцін і 1 388 сажняў зямлі (без сялянскіх надзелаў). Увесь маёнтак падзяляўся на 7 участкаў-гмінаў, у яго склад уваходзіла 10 фальваркаў, 14 засценкаў, 16 вёсак ды 12 корчмаў.

У маёнтку Сар'я існавала сельскае вучылішча для сялянскіх хлопчыкаў. Заснаванае ў 1867 годзе на сродкі сялян-уласнікаў, яно размяшчалася ў невялікім драўляным будынку пры Сар'янскім валасным праўленні. У 1871 годзе пачаткі пісьма, чытання ды закону Божага тут спасцігалі 18 хлопчыкаў, якія не толькі вучыліся, але і харчаваліся за кошт сялянскай грамады. Апроч таго, вучэльню наведвалі яшчэ некалькі вучняў, якія ўтрымліваліся за ўласны кошт.

Праз увесь маёнтак, амаль па прамой лініі перасякаючы яго з поўначы на поўдзень, працякала рэчка Сар'янка, якая славілася добрымі сенакоснымі лугамі, што распасціраліся ўздоўж яе берагоў, пачынаючы ад вусця больш як на 30 вёрст.

Праз маёнтак праходзіла гандлёвая дарога, якая звязвала гарады Дрысу і Рэжыцу. Вам ніколі не даводзілася карыстацца гэтым старажытным гандлёвым шляхам? Баюся, што мала хто з сучаснікаў зможа даць станоўчы адказ, бо шлях гэты, як і сотні іншых, даўно ўжо знішчаны новымі трасамі камунікацый. А вось генерал-маёру Міхаілу Без-Карніловічу яшчэ давялося ім падарожнічаць. Разгорнем яго нататкі: "Ад вёскі Вусце да горада Рэжыцы галоўны напрамак дарогі паўночна-заходні. 8 вёрст ідзе паштовай дарогай з Дрысы ў Дынабург. У вёсцы Вусце збочвае ўправа з паштовай дарогі на мястэчка Росіцу". Завітаем у гэтае мястэчка і затрымаемся там крыху даўжэй за шаноўнага пана тапографа, імкнучыся даведацца пра яго далёкую і больш блізкую гісторыю.

### РОСІЦКІЯ ГІСТОРЫІ

Першыя пісьмовыя згадкі пра Росіцу тычацца канца XVI стагоддзя: у 1599 годзе канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега купіў мястэчка ў Давыда Аляксеевіча Росіцкага і яго спадчыннікаў. Пра Росіцу тых часоў практычна ніякіх звестак не захавалася апроч таго, што знакаміты дзяржаўны муж фундаваў у новым уладанні царкву ў імя Іаана Хрысціцеля.

Уласнасцю сям'і Лапацінскіх Росіца стала ў 1753 годзе, калі яе разам з Сар'яй выкупіў у Сапегаў брэсцкі ваявода Мікалай Тадэвуш. Яна ўвайшла ў склад маёнтка Сар'я і пазней перайшла ў спадчыну да малодшага сына брэсцкага ваяводы Тамаша Ігната Лапацінскага. У тэстаменце, якім Мікалай Лапацінскі дзяліў усе свае ўладанні паміж трыма сынамі, чытаем наступнае: "Я маю трох сыноў і дзялю так: Сар'ю і Лапацін -- Тамашу, Яну -- Лявонпаль, Дрысвяты і Шаркаўшчыну; каноніку (Юзафу Лапацінскаму, жмудскаму суфрагану і трыпалітанскаму біскупу. -- **Л.Х.**) -- камяніцы ў Вільні. Тамашу даю больш не таму, што больш яго люблю, а таму, што ўладанні яго знаходзяцца за кардонам, а астатніх -- на радзіме. Хоць толькі Богу вядома, каму будзе лепей: Тамашу пад уладай расійскай імператрыцы ці Яну Нікадзіму, які застанецца ў беднай, пашарпанай унутранымі разладамі Польшчы".

У 1778 годзе Мікалай Лапацінскі пабудаваў у Росіцы сваім коштам драўляны каталіцкі касцёл, на гісторыі якога варта спыніцца больш падрабязна. Апроч грошай на ўзвядзенне касцёла, ён фундаваў яшчэ 2 500 талераў бітых на алтар храма. У хуткім часе фундацыю дапоўніў смаленскі канонік Рафал Свянціцкі, ахвяраванне якога склала 3 000 польскіх злотых.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: адзін з мураваных флігеляў былой сар'янскай сядзібы. Сучасны стан.**

# КАРАЛІШЧАВІЧЫ, КАРАЛІШЧАВІЧЫ...

## (СТАРОНКІ НЕ ХРЭСТАМАТЫЙНЫЯ)



*Лес адпалаў і чорным стаў*
*ад страты --*
*Агонь з галін абсыпаўся ўначы.*
*Завея гоніць лісцяў абручы...*

**Аркадзь КУЛЯШОЎ.**

### 1. УСЁ ТОЕ ЛЕТА НАЙБОЛЬШ ЁН БЫЎ АДЗІН

-- Пайдзі, Аленка, у мой пакой і ў ніжняй шуфлядзе ў пісьмовым стале вазьмі цукерак. Вынесі дзецям...

Гэтак не раз падзываў мяне ў Каралішчавічах Канстанцін Міхайлавіч, вярнуўшыся з Мінска, куды ён адлучаўся да дактароў ці па нейкіх іншых сваіх справах. Ён ніколі не вяртаўся без цукерак і ласункаў усім дзецям, якія там летавалі ў гэты час са сваімі бацькамі-пісьменнікамі.

Звычайна Канстанцін Міхайлавіч жыў на першым паверсе і займаў дзесяты пакой. На другі паверх яму было ўжо цяжка ўзнімацца, ды там было і больш тлумна -- сюды, у лес, на лета ўсе з'язджаліся з дзецьмі. Ніжні паверх быў спакайнейшы.

Пасля паездкі ў машыне, здарожыўшыся, Канстанцін Міхайлавіч адпачываў адзін дзе-небудзь у плеценым крэсле ці на лаўцы паводдаль ад дзяцінай беганіны і крыку.

...Я ішла да яго ў пакой, вельмі прасторны і ўтульны, адчыняла шуфлядку, набірала добрыя прыгаршчы цукерак (цукеркі звычайна былі ў самых непадобных яркіх і вясёлых паперках -- відаць, купляючы, ён клапаціўся, каб цукеркі яшчэ і выглядам сваім цешылі дзяцей) і несла іх Канстанціну Міхайлавічу.

Дзяцей не трэба было ўпрошваць -- яны ўжо ведалі, што тут будзе, і ўмомант абступалі яго крэсла.

-- Ну, то частуй жа іх, -- загадваў Канстанцін Міхайлавіч. -- Вось гэтай маленькай, -- паказваў ён на які-небудзь скасабочаны бант, -- дай вонь тую вялікую, з белым мядзведзем цукерку...

Справу гэту — частаванне -- мы доўга не расцягвалі, і неўзабаве прыветны лясны дом наш залівала ўжо новая хваля дзяцінай радасці і ўзбуджэння: смакталіся цукеркі, азартна мяняліся "фанцікі", звінелі галасы...

Канстанцін Міхайлавіч, не мяняючы позы і выразу стрыманага задавальнення і цікавасці на твары, назіраў за дзецьмі. Ён ніколі не падладжваўся пад іх, ніколі не ўмешваўся ў іх гульні і спрэчкі, як гэта любяць рабіць пажылыя людзі — абавязкова павучаць і ўшчуваць вінаватых. Ён толькі назіраў. І, напэўна, параўноўваў і дзівіўся ў душы, якім непадобным можа быць маленства. І, вядома ж, успамінаў уласнае, вось гэтаксама сярод лесу... Толькі ў тым лясным -- яго -- маленстве нават і падабенства не было на гэтае, дзе адны толькі гульні, без аніякага клопату і занятку. Там абавязковай была працавітая пуга, кош, сякерка. А тут панавалі бясклапотныя гумовыя мячыкі, прыбраныя лялькі, дзіцячыя веласіпеды, драўляныя коні... Дзве розныя планеты -- на адным вяку!

-- Чаму ж ты сабе нічога не пакінула? -- пытаўся ў мяне, як у маленькай усё роўна, Канстанцін Міхайлавіч.

І я, маючы ўжо дваіх дзяцей, сапраўды чырванела, як малая.

-- Я не хачу, дзякуй.

-- Пайдзі яшчэ і сабе вазьмі плітку шакаладу ў мяне на стале, -- адпраўляў мяне Канстанцін Міхайлавіч.

-- Дзякуй, Канстанцін Міхайлавіч...

-- Не "дзякуй", а пайдзі і вазьмі. На стале.

Гаварылася гэта строга і настойліва. І я ішла... І брала ў яго на стале плітку цудоўнага шакаладу "Люкс".

Мы з дзецьмі -- вядома ж, перш за ўсё, каб быць удзячнымі Канстанціну Міхайлавічу за ўвагу і ласку, а таксама каб і яму зрабіць прыемнае -- амаль штодня стараліся насіць яму ў пакой свежыя кветкі. Тады яшчэ Каралішчавічы не былі такія вытаптаныя, як зараз. Тады ўзмежак паўз дарогу да гравійкі быў аж усыпаны буйнымі ляснымі ландышамі. Мы набіралі духмяны букет, неслі яго Канстанціну Міхайлавічу, і ён, калі быў у сябе ў пакоі, з задавальненнем нюхаў ландышы і паказваў, дзе лепей іх паставіць. Але ніколі не хваліў нас і не дзякаваў... Відаць, яго болей цешыла б, каб ландышы красавалі на волі, у ср[illegible]ай расе і сонцы.

[illegible]ё тое лета ён быў найбольш адзін у Каралішчавічах. Прыязджалі часам даведацца яго "хлопцы": Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Максім Лужанін... Сядзелі, гаманілі, паволі прагульваліся, потым зноў прысядалі, ка[illegible]нстанцін Міхайлавіч адпачыў. У яг[illegible]іла свая мясціна і свая лаўка -- пад густой ялінай -- на дарозе ў сталоўку.

А калі да яго ніхто не прыязджаў, блізкі і патрэбны яму, ён сам запрашаў каго-небудзь сесці каля яго, пагаманіць з ім. І тады ён распытваў, а часцей сам гаварыў -- няспешна расказваў ці ўспамінаў -- яшчэ з колішніх год, з часоў "лесніковай пасады", пра нейкія свае назіранні за птушкамі, за лесам, за надвор'ем (ён яго прадказваў не памыляючыся). І ўсё ўмеў вытлумачыць не "па-вучонаму" (акадэмік, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук!), а гэтак, як тлумачаць у вёсцы старыя мудрыя людзі.

...Можа, таму я адважылася папрасіць прачытаць мае "Шляхі-дарогі". (Мне вельмі хацелася пачуць думку Якуба Коласа... І ён, прачытаўшы іх і зусім не захапіўшыся тым маім напісаннем, потым нават склаў эпіграму пра тое, як "ратавала Алена карову"). Канстанцін Міхайлавіч і мяне запрашаў неаднойчы пасядзець з ім на лаўцы, можа, каб бліжэй прыгледзецца, зразумець, чаму гэтыя цяперашнія жанкі не займаюцца сваёй спрадвечнай справай -- не трымаюцца дому і сям'і, а хапаюцца за ўсё на свеце, некуды ўсё плішчацца, немаведама чаго дамагаюцца, каб хаця іх не апярэдзілі мужчыны...

Погляды ў яго былі вельмі пэўныя і непахісныя. Ён з замілаваннем і павагай успамінаў той лад і парадак і тое нястомнае жаночае імкненне клапаціцца пра ўласнае гняздо, якія некалі былі ў яго нябожчыцы-маці, звычайнай сялянскай жанчыны. Жанчына перш за ўсё павінна заставацца жанчынай... Каб была сям'я, каб дзеці былі на матчыных руках, а не параскіданыя па яслях і дзіцячых садках... А страву рыхтуе і корміць сям'ю таксама не сама гаспадыня, а чужая — з усяго свету — кабета, хатняя работніца. Які ў яе пра што ці пра каго будзе рупесак ці шкадаванне?

І, відаць, — у гэтым сэнсе -- я здавалася Канстанціну Міхайлавічу тады, у тым лясным асяроддзі, вартай даверу, можа, таму, што была яшчэ маладая (а маладосць, як вядома, больш схіляе да даверу, чым спрактыкаваная сталасць), ці, можа, таму, што не здавалася, як іншыя, ні занадта "прыстойна ўладкаванаю", ні аблашчанаю лёсам...

Мне вельмі хацелася тады, у Каралішчавічах, каб ён што-небудзь сказаў пра маю кніжку, за якую па тым часе мяне нямала хвалілі, ды і сама я была задаволена ёю. (І сабою таксама...) І я не вытрымала і аднойчы спытала ў Канстанціна Міхайлавіча, ці спадабаліся яму мае "Шляхі-дарогі".

Ён адказаў не адразу, адказаў, гледзячы некуды ўбок:

-- Мова вельмі нязграбная. Трэба вучыцца мове.

І гэта мяне страшэнна здзівіла. Нязграбная мова? У мяне і думкі пра гэта не было! Усе мае, як кастрыца жарсцвяныя, "маючыеся" і "працуючыя", "нагадваўшыя" і "змагаўшыеся" нават не краналіся тады маіх вушэй. Яны ўсё роўна як ватай былі заткнутыя.



Ён быў неабыякавы прыхільнік жаночага характва і таленту жаночай душы.

-- Але я ніколі не эксплуатаваў жанчыну. Я жанчыну любіў і заўсёды быў гатовы схіліць галаву перад жаночым лёсам, наканаваным ё[illegible]ой прыродай. Насіць і раджаць дзяце[illegible], пакутах, аддаваць ім бяссонныя ночы... Я ўсё жыццё адносіўся да жанчыны з павагай.

Канстанцін Міхайлавіч глыбока і незабыўна насіў у сэрцы страту свайго самага блізкага і адданага друга Марыі Дзмітраўны. Яна была яго ідэалам -- жанчыны і жонкі.

Ідэалы не паўтараюцца. Аднак душа, стомленая адзінотай, непазбежна прагне запаўнення і жыцця. З любасцю і павагай, не называючы імя (хоць яно і было вядомае), расказваў Канстанцін Міхайлавіч пра жанчыну, якая здолела б запоўніць гэту адзіноту. Але былі -- з абодвух бакоў -- дарослыя жанатыя дзеці...

Як я разумею цяпер, гэта было, відаць, не толькі жаданне "адкрыць душу" другому чалавеку, гэта хутчэй, можа, была неадольная неабходнасць вызваліць уласную душу ад маўклівага цяжару.

-- Без мовы... Калі няма адчування слова, то не трэба і пісаць, — так падагуліў нашу гутарку "на літаратурную тэму" Канстанцін Міхайлавіч.

У мяне не засталося тады адчування крыўды. Мне было толькі вельмі сорамна: як я магла адважыцца дакучаць -- і каму? -- Якубу Коласу! -- са сваім чытаннем?

І ўсё ж, відаць, сорам той за тое, уласцівае маладосці задавальненне ўласным "поспехам у літаратуры" не мог -- думаю -- не пайсці мне на карысць.

*1981.*

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: мемарыяльная дошка на былым Доме творчасці ў Каралішчавічах; Якуб КОЛАС (у цэнтры) сярод маладзейшых калег.**

**(Працяг будзе).**

---

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ПА-НАД МЯДЗЕЛКАЙ-РАКОЮ

Сёння, бадай, нікога не здзівіш выхадам кніг на перыферыі, ці, прасцей кажучы, у глыбінцы. Выдаюцца як калектыўныя зборнікі членаў мясцовых літаратурных аб'яднанняў, якія звычайна працуюць пры рэдакцыях раённых газет, так і аўтарскія. Тым больш не выключэнне тут старажытны Полацк з багатымі літаратурнымі і ўвогуле культурнымі традыцыямі, які хутка ў кнігавыданні, магчыма, пачне спаборнічаць са стольным Мінскам. Тут нават задумана цэлая серыя кніг землякоў, а таксама тых, хто ў розны час пісаў пра Полаччыну і яе людзей.

Адным словам, палачан выхадам кніг не здзівіш. І ўсё ж гэтая, што з'явілася нядаўна, па-свойму адметная, бо пад адной вокладкай "суседнічаюць" паэт і кампазітар. Я маю на ўвазе зборнік "Мелодыі роднага краю" Аркадзя Нафрановіча і Мікалая Пятрэнкі.

Кампазітара М. Пятрэнку на Беларусі ведае ці не кожны, добра вядомы ён і ў замежжы. Гэта ж ён напісаў музыку да верша Веры Вярбы "Ручнікі", што стаў такой папулярнай песняй. А ў цэлым на творчым рахунку Мікалая Макаравіча ажно 240 песень!

Другі аўтар кнігі -- А. Нафрановіч -- пакуль менш вядомы, хоць летась выдаў кнігу паэзіі "Мядзельскі мерыдыян" і даўно піша вершы. Родам Аркадзь Іосіфавіч з вёскі Юркавічы, што на Мядзельшчыне, непадалёку ад самой Гарачы, але другой радзімай для яго стала Пастаўшчына, дзе настаўнічае.

Пятрэнка і Нафрановіч сябруюць, а пачатак дружбе гэтых з немалой розніцай у гадах людзей быў пакладзены яшчэ ў 1955 годзе. Тады Аркадзь вучыўся ў Лепельскім педагагічным вучылішчы, а М. Пятрэнка там выкладаў беларускую мову і літаратуру. А да ўсяго А. Нафрановіч іграў у аркестры народных інструментаў, што быў створаны Мікалаем Макаравічам. Праўда, тады Аркадзь песень яшчэ не пісаў. Хоць правільней сказаць, і марыць не мог, што яго вершы калі-небудзь стануць песнямі. Тым не менш, паэтам-песеннікам ён стаў. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы свайму настаўніку.

Пацвярджэнне таму і кніга "Мелодыі роднага краю", у якой змешчана 17 песень разам з нотамі. Як слушна гаворыць назвай свайго ўступу паэт Н. Гальпяровіч (дарэчы, ён жыве ў Наваполацку), абодва аўтары знаходзяцца "ў палоне родных мелодый". І на самай справе песні А. Нафрановіча і М. Пятрэнкі надзіва мілагучныя, шчырыя, нескладаныя па свайму зместу. Але прастата гэтая падманлівая, бо ці не ў кожную з іх закладзены глыбокія пачуцці лірычнага героя, якія найперш сведчаць аб яго любасці да роднага краю.

Узяць хоць бы песню "П[illegible]ставы":

**Па-над Мядзелкай-ракою,**
**Дзе сады, лясы наўсцяж,**
**Непаўторнаю красою**
**Свеціць горад родны наш.**

У гэткім жа духу еднасці з родным краем, захопленасці ім гучыць і прыпеў:

**Паставы, Паставы --**
**Горад добрай славы.**
**Запаветных нашых мар**
**Вечны ўладар.**

**Паставы, Паставы --**
**Бераг левы, правы ,**
**Тут мы да святой зямлі**
**Сэрцам прыраслі.**

А колькі светласці, чысціні ў песні "Пастаўская лірычная"! Сама што ні ёсць народная мелодыя:

**Дзень, багаты справамі,**
**Скончыў свой палёт.**
**Зоркі над Паставамі**
**Водзяць карагод.**

**Ціха дрэвы шэпчуцца,**
**Лёг туман наўсцяж.**
**Зноў заліты месяцам**
**Мілы горад наш.**

Кранальнымі атрымаліся песні "Нераздзеленае каханне", "Заваёўваю цябе пяшчотай", "Па табе ў расстанні...", "Каля студні, ля крыніцы", "Іграла жанчына", "Не забывайце сваіх блізкіх"... А песня "Быць сапраўдным беларусам", што завяршае кніжку, гэта і маналог кожнага, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны:

**Жыць не згодзен**
**пад прымусам**
**Ні адзін зямны свой міг.**
**Быць сапраўдным**
**беларусам**
**У традыцыях маіх.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

НАТАТКІ З МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ АРХІВІСТАЎ

# ПОГЛЯД НА ГІСТОРЫЮ З МІНСКА

Напрыканцы красавіка ў Мінску прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Замежная архіўная беларусіка". У яе арганізацыі бралі ўдзел: Камітэт па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА, Беларуская асацыяцыя гісторыкаў, гістарычны факультэт БДУ, часопіс "Беларуская мінуўшчына". У якасці спонсараў канферэнцыі выступілі ЮНЕСКА і фірма "Дайнова". Акрамя беларускіх навукоўцаў і даследчыкаў замежных архіваў Беларусі ў працы канферэнцыі ўдзельнічалі таксама іх калегі з Польшчы, Расіі, Літвы, Украіны, іншых краін.

Пытанне рэстытуцыі беларускіх архіваў заўсёды хвалявала руплівцаў нацыянальнай культуры і гісторыі, і зразумела, чаму. Без дакладна занатаванай у дакументах і іншых паперах мінуўшчыны нашай краіны немагчыма ні асэнсаваць, ні напісаць кнігу сапраўднай гісторыі яе народа. Але як гэта зрабіць, калі на працягу стагоддзяў наша гісторыя расцягвалася, раскрадалася, і гэты скарб пераразмяркоўваўся паміж пераможцамі-рабаўнікамі розных краін. Цяперашні працэс рэстытуцыі беларускіх архіваў бачыцца вельмі складаным і доўгім і вымагае працы нават не аднаго пакалення, бо з шматвяковай гісторыі беларускага народа выпадалі не толькі асобныя яе старонкі, знікалі і губляліся цэлыя раздзелы. Разам з гісторыяй вымываліся з нашага ўжытку культура і традыцыі, разбураны ўвогуле лад жыцця беларускага народа. Як бачна, задачы, якія стаяць перад архівазнаўцамі, вельмі складаныя і разнастайныя. Вырашэнне іх цяпер яшчэ больш ускладняецца з-за абмежаваных фінансавых магчымасцей, што тлумачыцца агульным эканамічным заняпадам і абыякавасцю ўладаў да нацыянальнай культурнай спадчыны. Менавіта таму канферэнцыя падаецца вельмі своечасовай і карыснай. Акрамя таго, што ўдзельнікі яе прыехалі падзяліцца сваімі доследамі і напрацоўкамі, усе яны імкнуліся вызначыць нейкі пункт адліку, каб потым выпрацаваць агульную сістэму рэстытуцыі беларускіх архіваў. Мэтазгоднасць такога падыходу бясспрэчная. Вядома, што работа па збору нацыянальнай спадчыны вядзецца архівазнаўцамі і іншымі навукоўцамі ўжо даўно, але, па-першае, яна пакуль не скаардынаваная, а таму выглядае як бессістэмная; па-другое, не хапае як кадраў, так і вопыту, каб распрацоўваць пытанне па ўсіх накірунках, а шмат навукоўцаў наогул працуе дагэтуль амаль на голым энтузіязме, па-трэцяе, у бліжэйшы час наўрад ці можна чакаць вяртання арыгінальных архіваў на Бацькаўшчыну, а гэта вымагае пошуку новых канцэпцый і падыходаў да праблемы рэстытуцыі архіваў.

Трэба адзначыць, што вяртанне арыгіналаў -- справа вельмі дыпламатычная і падыходзіць да яе трэба з разуменнем, далікатна. Вось погляд на праблему дырэктара Беларускага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы прафесара Уладзіміра МІХНЮКА:

-- **Пытанне вяртання архіваў вельмі прывабнае. Вядома, заўсёды было б лепш мець у сябе тое, што тычыцца нашай гісторыі. Тое, што табе, як кажуць, належыць па праву. Гэта падаецца яшчэ больш мэтазгодным, калі ўлічыць, што ў замежжы матэрыялы, што тычацца Беларусі, не выкарыстоўваюцца належным чынам і найчасцей ляжаць увогуле незапатрабаванымі. Тым не менш, на сённяшні дзень -- гэта іх уласнасць, і не трэба чакаць, што нашы архівы нам нехта лёгка аддасць. Як сведчыць наш вопыт, патрабаванне беларускіх навукоўцаў вярнуць архівы пагражае тым, што дзверы замежных архіваў могуць наогул зачыніцца перад імі, і мы ніколі не даведаемся, што дзе наша ляжыць, каб гэта надалей вывучаць.**

**Менавіта таму галоўная мэта нашага інстытута -- гэта сабраць звесткі, дзе якія матэрыялы знаходзяцца, і стварыць базу даных усіх замежных архіваў, якія тычацца гісторыі Беларусі, і выдаць даведнікі. Гэта будзе вельмі карысна. Па-першае, мы будзем ведаць, што дзе ляжыць, а гэта дапаможа зарыентаваць як навукоўцаў, так і саміх архівістаў у іх працы. Па-другое, калі будзе створана база, будзе лёгка вызначыць, што вымагае першаснага вывучэння, а што можа пакуль і пачакаць. На гэтай падставе можна ўжо будзе весці перамовы з замежнымі архівамі і ставіць пытанне аб вяртанні найбольш каштоўных і патрэбных для нас матэрыялаў.**

На канферэнцыі прагучала шмат грунтоўных дакладаў аб дакументах і матэрыялах па гісторыі Беларусі як у прыватных зборах, так і дзяржаўных архівах розных краін замежжа. Асаблівую цікавасць сярод удзельнікаў выклікаў даклад Сяргея Шупы, які можна назваць сенсацыйным, пра лёс архіва БНР, той яго часткі, што знаходзіцца ў Дзяржаўным архіве Літвы. Пра беларускі нацыянальна-вызваленчы рух у дакументах Архіва Акт Новых распавяла выступоўца з Варшавы Яўгенія Шымчук. Наогул на канферэнцыі прагучала звыш шасцідзесяці дакладаў і выступленняў па праблеме.

Віталь Скалабан, намеснік дырэктара Беларускага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, паказаў мне ксеракопіі унікальных дакументаў, якія адлюстроўваюць, як усталёўвалася савецкая ўлада ў Беларусі ў 1917 годзе. У дакументах выкладзены ўмовы, якія ставіў Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці перад фракцыямі левых беларускіх партый. Сярод іх таксама пратаколы допытаў арыштаваных дэлегатаў І-га Усебеларускага з'езда: Аляксандра Васілы, Івана Серады, Зінаіды Юр'евай і іншых. Матэрыялы сапраўды сенсацыйныя. Лічылася, што іх увогуле не існуе. Але дзякуючы наладжванню супрацоўніцтва з Цэнтральным вайсковым архівам у Варшаве дакументы былі знойдзены, і вось [illegible]ль толькі копіі вярнуліся на радзім[illegible]

Гаворачы аб вяртанні дакументаў, іншых культурных каштоўнасцей, нельга абмінуць яшчэ адну праблему, на якую час ад часу спасылалася шэраг выступоўцаў. Уся сп[illegible]ва ў тым, што ў Беларусі да гэтага [illegible]у няма дзяржаўнай структуры, [illegible] б каардынавала ўсю справу па вяртанню нацыянальнай культурнай спадчыны. Такія структуры створаны пры ўрадзе кожнай цывілізаванай краіны, але Беларусь, як сведчыць сучасны вопыт, у спіс такіх, падаецца, трапіць не хутка. Вось меркаванне на гэты конт доктара гістарычных навук Уладзіміра МІХНЮКА:

-- **Даўно прыйшоў час дзяржаве павярнуцца тварам да навукі, асабліва да гісторыі. Пытанні гісторыі сёння больш чым актуальныя, і патрэбна зразумець, што на гісторыю не можа быць толькі адзін пункт гледжання. Больш таго, на гісторыю Беларусі трэба глядзець менавіта з Мінска, а не з Масквы ці Варшавы, як гэта было раней. Дзеля гэтага трэба ствараць структуру, якая б узяла на сябе ўвесь клопат напісання сапраўднай гісторыі Беларусі. Сюды шмат што ўваходзіць: і распрацоўка прававой асновы, і стварэнне тэхнічнай базы, і падрыхтоўка кадраў, і шмат іншых пытанняў. Не кажу пра іншае, але дзе ўзяць, напрыклад, кваліфікаваныя кадры сёння, калі з Інстытута гісторыі сышлі лепшыя?! Хто пойдзе займацца навукай на аспіранцкія 300-400 тысяч?!**

**Так, канферэнцыя атрымалася цікавай і плённай, але яе мэта ў поўнай меры не дасягнута. Мы чакалі яшчэ іншых удзельнікаў з Вялікабрытаніі, ЗША, Германіі, краін блізкага замежжа. Яны не прыехалі таму, што мы пакуль не можам забяспечыць міжнародны ўзровень наладжвання такіх канферэнцый, і гэта зноў тлумачыцца нашымі абмежаванымі фінансавымі магчымасцямі. Такая ж праблема ў нашым інстытуце. Як, напрыклад, можна займацца замежнымі архівамі, калі грошы выдаткоўваюцца нам толькі на заробак, а на ўсе камандзіроўкі, тэхнічныя сродкі скасаваны. Трэба нарэшце зразумець: калі дзяржава не працуе на назапашванне інтэлектуальнага патэнцыялу, калі дзяржава не ўкладае грошы ў навуку, такая дзяржава не мае перспектывы развіцця. Да таго часу, пакуль беларускі ўрад будзе заставацца ў баку ад нацыянальнай культурнай справы, не прыйдзе да разумення неабходнасці цывілізаванага ўзроўню вырашэння праблемы, гэтая справа, вядома, не спыніцца, але рухацца будзе вельмі марудна.**

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

*СЛОВА ПРА СЯБРА*



# ПРАФЕСАРУ В. ЖЫДЛІЦКАМУ -- З ПАДЗЯКАЙ

Якраз у дзень нараджэння прафесара Карлавага універсітэта д-ра Вацлава Жыдліцкага ў Беларускім дзяржаўным універсітэце адбылося ўшанаванне 65-годдзя нашага пражскага сябра. Падрыхтавала і вяла імпрэзу загадчыца кафедры замежнай літаратуры, прафесар унівверсітэта, старшыня сябрыны "Беларусь -- Чэхія" д-р Ірына Шаблоўская. Многа добрых слоў у адрас свайго даўняга прыяцеля сказаў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Аб чэшска-беларускіх літаратурных сувязях, якія вс[illegible] ужо 40 гадоў мацуе спадар [illegible]лаў Жыдліцкі, нагадаў прафесар БДУ д-р Вячаслаў Рагойша. Аб сваіх сустрэчах з вучоным у Празе і Мінску згадаў паэт Сяргей Панізьнік.

Вацлаў Жыдліцкі нарадз[illegible] 16 красавіка 1931 года на Валы[illegible]асля вайны яго сям'я вярнулася на радзіму продкаў. Яшчэ падчас вучобы ў Карлавым універсітэце ён стаў даследаваць нароўні з украінскай і беларускую літаратуру. З 1956 года пачаў летапіс творчага пабрацімства з краінай сяброў (з упадабанага гэтага слова -- сябар якраз і пачалася духоўная прыхільнасць Вацлава Жыдліцкага да беларускага прыгожага пісьменства).

У 1958 годзе ён надрукаваў свае першыя пераклады. Спачатку былі апавяданні Кузьмы Чорнага, Цішкі Гартнага... Год за годам рос наробак дасведчанага, апантанага перакладчыка -- прапагандыста Скарынавага слова ў самым цэнтры Еўропы. Акрамя мноства артыкулаў, даследаванняў, дапаможнікаў для філолагаў роднай альма-матэр, Вацлаў Жыдліцкі пераклаў 30 твораў 14 беларускіх аўтараў, падрыхтаваўшы да іх прадмовы ці пасляслоўі, абавязковыя каментарыі, каб нашая духоўная скарбніца магла быць прынята, уразумета, прынесла дар і вярнула доўг чэхам, на зямлі якіх знайшоў свой апошні прытулак Францішак Скарына.

Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь падрыхтавала да 65-годдзя Вацлава Жыдліцкага выставу кніг, якія былі выдадзены яго "працаю і пільнасцю" ў слаўным старажытным месце пражскім. І яшчэ адна доўгачаканая падзея ў чарадзе ўшанаванняў нашага слаўнага сябра з Чэхіі: вучоная рада Беларускага дзяржаўнага універсітэта на сваім пасяджэнні 29 красавіка 1996 года аднагалосна прагаласавала за прысуджэнне прафесару Карлавага універсітэта Вацлаву Жыдліцкаму звання ганаровага доктара БДУ. Так былі ацэнены яго выдатныя дасягненні ў перакладчыцкай справе, у педагагічнай дзейнасці, у філалагічнай навуцы, у яго братэрскай чыннасці на славу Беларускага Слова.

**С. ПАПАР.**

**НА ЗДЫМКУ: Вацлаў ЖЫДЛІЦКІ з Уладзімірам КАРАТКЕВІЧАМ. 1968 г.**

# МАЙСТРА ПЕРАКЛАДУ

Беларуская літаратура мае даўнія традыцыі перакладу і папулярызацыі ў Чэхіі. У пасляваенны час сфарміравалася група літаратараў, якія набліжаюць творы нашых аўтараў да чэшскага чытача. Найбольш аўтарытэтным сярод іх даследчыкі слушна лічаць Вацлава Жыдліцкага--майстра перакладу, які заўсёды працуе непасрэдна і выключна з арыгінальнымі беларускімі тэкстамі, а не з рускімі адаптацыямі.

У адным з артыкулаў, прысвечаных Максіму Багдановічу, В.Жыдліцкі сцвярджае, што "беларуская мова адчувае сябе добра ў метрах Ф.Пятраркі і П.Верлена". Чытач можа пераканацца, што цудоўна гучаць па-чэшску перакладзеныя В.Жыдліцкім раманы і аповесці У.Караткевіча ("Нельга забыць", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Чорны замак Альшанскі"), творы Я.Брыля ("Птушкі і гнёзды", "Ніжнія Байдуны", "Апошняя сустрэча"), В.Быкава ("Абеліск", "Дажыць да світання"), І.Шамякіна ("Сэрца на далоні", "Гандлярка і паэт"), К.Чорнага, А.Карпюка, І.Пташнікава. Дзякуючы намаганням В.Жыдліцкага, Чэхія пазнаёмілася з дакументальнай аповесцю А.Адамовіча, Я.Брыля і У.Калесніка "Я з вогненнай вёскі...".

У асобе В.Жыдліцкага выяўляецца прынцыповы, глыбока дасведчаны даследчык. Ён пільна сочыць за развіццём беларуска-чэшскіх сувязяў, сам бярэ актыўны ўдзел у гэтай важнай справе, пра што сведчыць яго праца "Украінская і беларуская літаратура ў чэшскіх перакладах", якая вызначаецца тэарэтычнай заглыбленасцю, багаццем прааналізаванага матэрыялу. Міні-энцыклапедыямі можна назваць створаныя спадаром Жыдліцкім "Малы слоўнік савецкіх пісьменнікаў" (т. 2, "Украінскія і беларускія пісьменнікі"), "Даследаванне па гісторыі чэшска-беларускай супольнасці", "Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры". Ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх рэцэнзій і навукова-папулярных артыкулаў, прымае ўдзел у навуковых канферэнцыях, чытае лекцыі па пытаннях беларускай і ўкраінскай літаратур у Карлавым універсітэце ў Празе.

В.Жыдліцкі працуе без кідкай сенсацыйнасці, без разліку на шумны поспех, але затое сур'ёзна і ўдумліва, з той прафесійнай грунтоўнасцю, якая забяспечвае яго перакладам і даследаванням добрую трываласць. Ён шукае і знаходзіць у гісторыі Беларусі і ў яе літаратуры такіх творцаў, якія найбольш яскрава выяўляюць тыповыя рысы беларускага нацыянальнага светапогляду.

**Георгій ЧАХОЎСКІ,**
**студэнт Беларускага**
**дзяржаўнага універсітэта.**

## ПРЫСВЕЧАНА 10-ГОДДЗЮ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ БЯДЫ





### "ЗОНА ЖУРБЫ"

Так называецца персанальная выстава Анатоля Клешчука, якая экспануецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі і прымеркавана да 10-годдзя аварыі на атамнай станцыі ў Чарнобылі. Тэму гэту фотамайстар даследуе з першых дзён катастрофы, у апошнія пяць гадоў пераважна здымае дзяцей, якія сталі ахвярамі атама, і цяпер яны пацыенты Рэспубліканскага анкагематалагічнага цэнтра.

Першае, што адчуваеш, калі бачыш гэтыя здымкі, -- боль такі моцны, што, здаецца, спыняецца ўласнае сэрца, боль за дзяцей і іх бацькоў, на чыю долю выпалі нечалавечыя пакуты. За роспачу зажураных вачэй, за болем канаючых цельцаў, за душэўным крыкам пахіленых з гора бацькоў паўстае праўда трагічнай гісторыі дзяцінства, хроніка "здарэння", што доўжыць і доўжыць людскія пакуты.

Праца Анатоля Клешчука вартая ўвагі і захаплення, бо ён прыняў на сябе частку пакут гэтых малых і дарослых. У ёй сціпласць і сіла, мастацтва і чалавечая цеплыня, глыбокая праўдзівасць. Расказваючы, што ён перажываў кожны раз, калі ехаў у шпіталь на здымкі, Анатоль Кляшчук гаворыць, што не раз узнікала жаданне ўсё кінуць, але "я павінен быў сказаць свету, што перажывае мая краіна ў выніку катастрофы на бяздарна пабудаванай атамнай станцыі. Я не збіра[illegible] "закрываць" гэту тэм[illegible] змагаюся супраць за[illegible]цця і страты пільнасці".

НА ЗДЫМКАХ: працы Анатоля КЛЕШЧУКА з выставы "З[illegible] журбы".









*З ВІЛЬНІ*

## ВЫСТАВА БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

Газета -- гэта люстэрка, у якім адбіваецца грамадскае жыццё народа, яго думкі, настрой, палітычны і эканамічны рух. Выстава, якая адкрылася ў Літоўскай бібліятэцы Акадэміі навук, прадстаўляе перыядычны друк эпохі станаўлення беларускага вызваленчага руху. У аддзеле рукапісаў захоўваюцца унікальныя выданні -- рукапісы сатырычнай газеты "Пялун" (1912 год), літаратурнага альманаха "Колас" (1913 год), захоўваюцца ў адзіным экземпляры. Выклікае цікавасць сатырычны часопіс "Раніца", штотыднёвая газета каталіцкая "Беларусь", газета "Наша доля". На пачатку вайны ўсе гэтыя выданні былі закрыты. Толькі факсімільныя выданні газет "Наша ніва" і "Наша доля" даюць сучаснаму чытачу ўяўленне аб тым часе. А Вільня на пачатку стагоддзя ўяўляла сабой буйны грамадскі і культурны цэнтр Літвы і Беларусі.

Тут, у Вільні, пачыналася беларуская прэса. У газеце "Наша ніва" друкаваліся вершы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча. Рэдактарамі "Нашай нівы" былі браты Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў, у рэдакцыі газеты працавалі нейкі час Янка Купала, Ядвігін Ш., Вацлаў Ластоўскі, Сяргей Палуян і іншыя беларускія дзеячы. Параўнальна невялікая група беларусаў, што станавіла актыў беларускага руху Вільні, была бедная і грошай на справу даць не магла. "Наша ніва" -- асабліва спачатку -- мела мала платных падпісчыкаў, на вёску высылалася пераважна дарма, а ў самой Вільні разыходзілася мала. На пачатку стагоддзя ў Вільні была і Беларуская друкарня. Цяпер у Беларусі адрадзіліся некаторыя і з даваенных выданняў. І на выставе былі прадстаўлены газеты "Свабода" (адноўлена ў 1990 годзе) і "Наша ніва" (1991 год)' Гэтыя выданні ўзялі не толькі ранейшыя назвы, але імкнуцца адрадзіць і перадаць дух сваіх папярэднікаў.

У бібліятэцы знаходзіцца экземпляр славутай "Бібліі" Ф.Скарыны. Унікальная газета "Мужыцкая праўда", якую выдаваў Кастусь Каліноўскі, напісана лацінкай, выдавалася для сялян. Газету "Свабода" выдаваў Вацлаў Іваноўскі, вядомы беларускі гісторык, нарадзіўся на літоўска-беларускім паграніччы, газету выдавалі падпольна, хавалі ў лясах.

У 1904 годзе маскоўскі цар дазволіў выдаваць газеты на нацыянальнай мове. Першага верасня 1906 года ў Вільні выйшла першая легальная газета "Наша доля" (толькі 6 экземпляраў), а праз тры месяцы грамадска-палітычны і літаратурны штотыднёвік "Наша ніва" (1906 -- 1915).

Таму і мэта выставы -- пазнаёміць чытачоў з цікавай эпохай, прыцягнуць увагу грамадскасці да скарбаў беларускай культуры, каранямі сваімі звязанай з Літвой. На выставе пабывалі і вучні віленскай беларускай школы.

**Леакадзія МІЛАШ.**


**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").





**НАШ АДРАС:**

220005, Минск, праспект Ф.Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 511. Падпісана да друку 20.5.1996 г.